куст, які трасецца, і вярнуліся на край паляны. Яны пасталі кожны на сваё месца так, што і слядоў іх паходу не было відаць.

Жэня пераадолела першы страх і падышла да растаптанай Раі. На знявечанае цела цяжка было глядзець. Жэня заплакала. Яна плакала, і слёзы яе капалі на маленькія баравічкі. Адзін з баравікоў зняў капялюш, павітаўся з Жэняй і сказаў, што калі яна тры разы пастукае па трухлявым пні, які тырчыць пасярод паляны, дык той можа прачнуцца і ажывіць яе забітую сяброўку. Жанчына так і зрабіла — і пень ажывіў Раю. Жэня страшэнна абрадавалася і спытала ў абраслага мохам пня, чым зможа яму аддзячыць. Трухлявы сказаў, што ў яго ёсць пляменнік — малады дубок, які хоча перабрацца жыць у горад. Добра будзе, калі жанчыны возьмуць гэты дубок, завязуць яго ў Мінск і пасадзяць у сваёй Асмалоўцы.

Таго разу Рая і Жэня вярнуліся з Зялёнага не толькі з поўным кошыкам баравічкоў, але і з маладым дубком. Жанчыны пасадзілі яго каля дзіцячага садка. Дубок прыжыўся, бо жанчыны яго старанна палівалі ўсё лета і восень.

## МАГІЛА, СЭРЦЫ, ЗЕМЛЯТРУС

Жыў у Асмалоўцы Чорны Сэрцаед, якога калісьці звалі Славамір Тонкі. Завязалася страшная гісторыя з таго, што Славамір пачаў паміраць. Ён паміраў, а праз дзень-другі ўваскрасаў. Раз памёр Тонкі, другі, а на трэці раз сваякі не дачакаліся яго ўваскрашэння і закапалі Славаміра Тонкага на Кальварыйскіх могілках. Праз дзевяць дзён у Мінску пачаўся землятрус. Нямоцны, але лямпачкі і люстры так захісталіся, што людзі з дамоў павыскоквалі на вуліцу.

Знаўцы чорных спраў казалі, што ў той момант Славамір Тонкі і ператварыўся ў Чорнага Сэрцаеда. Вылез ён з магілы і папоўз да Асмалоўкі. Дапоўз Сэрцаед да першага двухпавярховіка і пачаў дзверы ў кватэры выбіваць і людзей лавіць. Злавіў Васіля Бычка, прыдушыў, вырваў з-пад рэбраў гарачае і поўнае крыві сэрца. Глынуў не разжоўваючы.

У першым двухпавярховіку Сэрцаед злавіў яшчэ і дзяўчынку — Надзейку Будан. Ён загадаў ёй вадзіць яго па Асмалоўцы:

пакуль Чорны Сэрцаед ляжаў пад зямлёю, у яго моцна папсаваўся зрок. Надзейка вадзіла Сэрцаеда ад аднаго двухпавярховіка да другога, дзе ён вырываў і глынаў сэрцы. Акрамя Бычка Чорны Сэрцаед злавіў яшчэ Мішу Козела і Грышу Петухоўскага і вырваў ім сэрцы. За адну ноч Сэрцаед забіў усіх мужчын, якія калі-небудзь пазычалі і не вярнулі грошы.

Пад раніцу ён папрасіў Надзейку завесці яго на Кальварыю і пакінуць каля нары, што вяла ў магілу. Дзяўчынка падвяла пачвару да глыбокай нары. Чорны Сэрцаед залез у родную магілу, лёг пад крыжам, выпрастаўся і супакоіўся. Пасля таго страшнага здарэння ніякіх землятрусаў у Мінску і не было.

## ГАДАЛКА, ВЯСЕЛЛІ, ТУРМА

У Асмалоўцы шмат мастакоўскіх майстэрняў. У адной з іх збіраліся тутэйшыя дамы. Мастачка Галіна Глазава запрашала іх на вечары з віном і размовамі. За размовамі дамы даведаліся, што ў Галіны ёсць знаёмая варажбітка Лора. Яна гадае на кафейнай гушчы, і выключна пра вяселлі. За дваццаць пяць рублёў Лора магла расказаць пра ўсё, што адбудзецца на тваім будучым вяселлі.

Асмалоўскія дзяўчаты пашнураваліся ў чаргу да варажбіткі, якую запрашала Глазава. Гадала Лора толькі ў ноч з поўняй. Адна поўня — адно прадказанне. Спраўджваліся яны на ўсе сто. Ні разу яна не памылілася. І колер вачэй жаніха, і яго рост, і яго касцюм Лора апісвала дакладна, нібыта ў яе перад вачыма была фотакартка з таго вяселля. Нават асноўных гасцей апісвала. Зразумела, што ўсе прадказанні рабіліся ў вялікай таямніцы. Яно так і ішло б далей, каб не дурнаватая Зіна Кутас.

Пачалася драма з таго, што Лора паспрабавала адмовіцца ад варажбы для Кутас. Казала, што настрою няма, што поўня не зусім поўная, што ноч для варажбы кепская. Зіна настойвала. Лора, можа, з гадзіну разглядала кубак, з якога выпіла каву Кутас, а потым узяла ды лупанула: «Не будзе ў цябе, дарагая ты мая Зіначка, ніякага вяселля! Не лёс!!!» Зіна так абурылася гэтым прысудам, што схапіла са стала нож і ўсадзіла варажбі-

тцы ў горла над левай ключыцаю. Параненая Лора пазалівала крывёю ўсю майстэрню мастачкі Глазавай.

Пакуль ехалі дактары, варажбітка сышла крывёю. Яна памерла па дарозе ў бальніцу хуткай дапамогі.

Забойцу Зіну Кутас судзілі. Далі ёй, калі казаць пра забойства, няшмат, за ўсё — пяць гадоў. Ды з турмы Зіна не выйшла. Здарылася з ёй бяда. Стаяла Кутас на лесвіцы і фарбавала сцяну, акуратна фарбавала. Дзеўка была высокая, толькі яна і магла з той лесвіцы да столі дастаць. Стане на дыбачкі і фарбуе сцяну пад самай столлю. І неяк няўдала яна на дыбачкі ўзнялася, лесвіца захісталася і паехала. Зіна ўпала і ўдарылася патыліцай аб каменную падлогу. Тры дні паляжала ў коме і памерла... Вось такая здарылася драма з варажбой пад поўняй у мінскай Асмалоўцы.

## ВЯСЕЛЛЕ, РОГІ, ЧОРТ

Сям’я Храптовічаў мела ў Асмалоўцы свой асобны дом. Усе жывуць у кватэрах, а Храптовічы — за высозным плотам, у прасторным доме, што стаіць пасярод яблыневага садка. Было ў той сям’і адно дзіця — сын Валодзя. Прыгажун і весялун. Знайшоў Валодзя нявесту — генеральскую дачку. Храптовічы нарабілі з дошак сталоў ды лавак і запрасілі на вяселле ўсю Асмалоўку. Калі асмалоўцы атрымлівалі запрашэнні, дык ім казалі, што на вяселле трэба прыйсці шыкоўна прыбранымі, апрануць самае добрае з таго, што ёсць.

Публіка прыйшла на вяселле ў найлепшых сваіх апранахах, прышыбавала ў самым дарагім абутку. Жанчыны占 паначэплівалі на сябе ўсе чыста ўпрыгожанні. Было на што паглядзець! Асмалоўцы выглядалі так урачыста і святочна, што некаторых было цяжка пазнаць. Самы запамінальны выгляд меў Ясь Гавяда. Яго ўпрыгожанне здзівіла ўсіх без выключэнняў.

Самотны Ясь, атрымаўшы запрашэнне, доўга не мог прыдумаць, у чым такім добрым пайсці ў госці. Перабраў і паперамерваў усё, што знайшоў у кватэры. Гадзіны тры ён пракруціўся ў вітальні перад люстэркам. І тое апранаў, і гэтае.

Атрымлівалася звычайна, сумна, паныла. Нават саламяны капялюш, прывезены з чарнаморскага курорта, не радаваў.

Капялюш вісеў на ласіных рагах каля люстэрка. Была такая мода ў Асмалоўцы — трымаць у вітальні на сцяне звярыныя рогі, пакрытыя лакам. На тыя рогі гаспадары ўсчэплівалі свае кепкі і капелюшы. Ясь зняў рогі са сцяны і прыклаў да галавы — атрымаўся ніштаваты чорт. Адно што рогі былі цяжкія і завялікія. Ясь Гавяда не паленаваўся і адпілаваў сабе ад вялікіх рагоў два спічастыя дзесяцісантыметровыя кавалачкі. Іх ён і замацаваў сталярным клеем на сваім высокім ілбе. У такім рагатым выглядзе Ясь Гавяда і прыйшоў на вяселле да Храптовічаў.

З Яся пасмяяліся. Смяяліся ўсе, нават бацька маладой — генерал — зарагатаў, пабачыўшы рагатага хлопца. Яся здзеклівы смех не засмуціў: ён шчыра верыў, што парадаваў гасцей. Разам з асмалоўцамі хлопец прабаляваў за дашчанымі сталамі да самай раніцы. Піў, танцаваў і песні спяваў. Нават да дзяўчат спрабаваў заляцацца, праўда, без поспеху. На золку Ясь вярнуўся дамоў і, стоячы перад люстэркам, паспрабаваў зняць пасаджаныя на клей вострыя рогі. Яны не здымаліся. Яны прыраслі, трымаліся на галаве так, нібыта заўжды там і былі. Ад сваёй бездапаможнасці п’яны Ясь завыў, гучна, павоўчы, завыў на ўсю Асмалоўку. Тут з люстэрка да яго і выйшаў сапраўдны чорт. Ён падышоў да Яся і лёгка зняў з яго лба адзін рог.

— Я і другі рог здыму, калі ты, Ясь Гавяда, паабяцаеш мне больш ніколі не гуляць у чорта! Не твая гэта гульня, сын мой! — так чорт сказаў Гавядзе і гучна тупнуў капытом па падлозе.

Ясь паабяцаў, што не будзе насіць рогі і не стане гуляць ні ў чорта, ні ў д’ябла. Нячысты зняў з Гавяды другі рог, зайшоў у люстэрка і там знік.

## ВУЛІЧНІК, БУТЭЛЬКА, ХАТНІК

У кожнай мясціне свае адметныя здані, духі і пачвары. Ёсць і ў Асмалоўцы цікавыя постаці, што прыходзяць у наш свет са свету іншага. Адну такую пачвару асмалоўцы клічуць Вулічнік. Ён носіць доўгі, ніжэй за калена, плашчык, на галаве ў яго шэры капялюш. На твары — нос-бульбіна і песняроўскія сіваватыя вусы. Вочы ў Вулічніка — чысцюткі блакіт і круглыя, як у Мулявіна. Сустрэнеш такога і падумаеш: пэўна, гэта артыст з опернага тэатра, балазе тэатр той побач стаіць. Лепей Вулічніка не сустракаць, бо зловіць твой позірк на сабе, зазірне ў вочы, падыдзе і прапануе разам выпіць. Вулічнік выцягне з рукава пляшку з гарэлкай і скажа, што трэба прайсці два крокі, там у яго ўтульная кватэрка, у якой можна будзе спакойна пасядзець, выпіць і пагаварыць пра жыццё-быццё. Па дарозе да кватэркі Вулічнік звычайна расказвае будучаму сабутэльніку смешныя показкі. Чалавек ідзе і ідзе за Вулічнікам, ідзе і не заўважае, што прайшоў не два крокі, а чорт ведае колькі. Можна так цэлую ноч прабадзяцца па горадзе. Адно добра, што показак наслухаешся і насмяешся на тры гады наперад.

Толік Бараноўскі з трыццатага дома прахадзіў за Вулічнікам ажно пяць гадзін. Алесь Лосік з дваццаць восьмага толькі а шостай раніцы дамоў вярнуўся, а Вулічніка ён сустрэў а восьмай вечара, калі з крамы «Суседзі» выходзіў. Васілю Казловічу з трыццаць другога пашанцавала, бо каля вайсковага вучылішча іх спыніў Хатнік. Ён прагнаў Вулічніка і завёў п’янага Казловіча дамоў. Трэба сказаць, што ўсе мужчыны былі на моцным падпітку. Да цвярозых людзей Вулічнік не чапляецца. Каб ён вадзіў па Мінску жанчыну ці падлетка, пра такое ў Асмалоўцы ніхто не казаў. Вулічнік гуляе выключна ў мужчынскія гульні, мусіць, ён яшчэ не чуў пра гендарны баланс. Але гэты пачуе: такія пачвары маюць добры слых і хутка прыстасоўваюцца да новых варункаў у новым часе. І яшчэ... Пазнаць Вулічніка прасцей простага, бо ў яго на руках не па пяць пальцаў, як у людзей, а па тры.

## ПРАЎНІК, РУКІ, НОГІ

У домакіраўніцтве, якое адказвала за двухпавярховую і жаўтасценную Асмалоўку, некалі працаваў сантэхнікам Іван Праўнік. Пакуль ён даглядаў Асмалоўку, там заўсёды была вада, выдатна працавала каналізацыя, усе засмечванні і забруджванні прачышчаліся і прыбіраліся імгненна. Можна сказаць, што тады сантэхніка працавала ў Асмалоўцы ідэальна. Так было, пакуль адна пільная хатняя гаспадыня Марыся Кучмель не заўважыла, што ў Івана абедзве рукі і абедзве нагі правыя.

Жанчына разнесла навіну па ўсёй Асмалоўцы. Прыгледзеліся людзі да Івана і пераканаліся, што чаравікі і пальчаткі ў яго правыя, рукі і ногі гэтаксама толькі правыя. Насцярожыліся асмалоўцы. Напружыліся. Лішні раз стараліся не тэлефанаваць у домакіраўніцтва і не выклікаць у свае кватэры выключна праварукага і праваногага сантэхніка. Той зразумеў, што больш не дадуць яму спакойнай працы ў Асмалоўцы, і звольніўся. Без Івана Праўніка сантэхніка ў Асмалоўцы, вядома, працуе, але так, як і ва ўсім астатнім Мінску, працуе не ідэальна.

## СКРЫЖАВАННЕ, МОГІЛКІ, МАНЕТКА

Хрысціна Лушпайка загінула пад коламі белай легкавушкі на перакрыжаванні вуліц Кісялёва і Багдановіча. Трагедыя здарылася ў цёплы жнівеньскі вечар. Хрысціна прыгатавала і паставіла на стол вячэру, калі пабачыла, што ў хаце скончыўся хлеб. Жанчына подбегам накіравалася ў краму, схапіла бохан чорнага і подбегам вярталася дамоў. На скрыжаванні яна намервалася перабегчы дарогу акурат перад белым «мерседэсам». Не разлічыла свой спрыт і хуткасць вялікага аўтамабіля.

Удар быў такім моцным, ажно бохан адляцеў метраў на пяцьдзясят. Ён упаў пад дом з шыльдаю «Асацыяцыя ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны». Там яго раніцай знайшлі і здзяўблі круглагаловыя галкі. Шафёра з белай легкавушкі судзілі, але тэрмін далі ўмоўны. Хрысціну Лушпайку прызналі вінаватай, бо ляцела на злом галавы на чырвонае святло. Цела яе завезлі ў крэматорый, а прах замуравалі ў

сцяну на Кальварыйскіх могілках. На гэтым рэальная гісторыя Хрысціны скончылася і пачалася казачная.

Кожнае лета ў цёплы жнівеньскі вечар на перакрыжаванні вуліц Багдановіча і Кісялёва з'яўляецца прывід Хрысціны Лушпайкі. Пакуль якая-небудзь легкавушка стаіць пад чырвоным святлафорам, Хрысціна залазіць у машыну і загадвае шафёру ехаць на Кальварыйскія могілкі. Твар у жанчыны зялёны. У вачах яе ззяе пякельны агонь. Зазвычай шафёры не спрачаюцца з прывідам і моўчкі едуць на Кальварыю, дзе істота сыходзіць, пакінуўшы на сядзенні залатую манетку. Але быў і такі, што адмовіўся везці жанчыну на могілкі. Сказаў, каб вымяталася з яго дарагой машыны. Хрысціна выйшла з аўтамабіля, але перад гэтым вострымі, як лёзы, пазногцямі яна разадрала ўвесь твар нахабнаму і сквапнаму шафёру... Карацей, сказалі табе ехаць на могілкі — едзь і маўчы, тады яшчэ ёсць шанц атрымаць залатую манетку.

## АЛОВАК, МАЙСТЭРНЯ, ВОЗЕРА

Кастусь Шаранговіч маляваць не любіў, але мастаком стаў. Трэба сказаць, што ў мастакі Кастусь пайшоў невыпадкова. Старэйшы брат хадзіў у мастаках, бацькі ўгаворвалі ісці за старэйшым братам, і самае галоўнае — вадзяны чорт падараваў хлопцу чароўны аловак.

Здарылася тое на беразе Свіслачы. Кастусь сядзеў у парку каля самай вады і старанна маляваў. Рэчку і старыя вербы над вадою. Маляваў, бо старэйшы брат загадаў. Свіслач плыла павольна, над плынню ціха пагойдваліся тонкія срэбралістыя галінкі. Хлопца пацягнула на сон. Ён заплюшчыў вочы і схіліў галаву. Аловак выслізнуў з вялых пальцаў і боўтнуўся ў ваду. Гэта быў дарагі цяжкі металічны аловак з устаўным стрыжнем, таму ён імгненна пайшоў на дно. Кастусь пачуў, як боўтнуўся аловак, і прахапіўся. Каб Шаранговіч сядзеў над плыткім месцам, ён мог бы палезці ў Свіслач і пашукаць згубленую рэч, але таго разу Кастусь выбраў месца над глыбокай ямінай. Знайсці аловак шанцаў не было.

Хлопец ужо збіраўся пайсці дахаты, калі вада ў рачной яміне закалыхалася і з яе ўзняўся зялёнабароды Вадзянік. Ён паказаў Кастусю залаты аловак і запытаў: «Твой?» Шаранговічу страшэнна спадабаўся вялікі важкі залаты аловак з устаўным стрыжнем. Ён ледзь не сказаў, што гэта ягоны аловак, але стрымаўся і не схлусіў. Вадзяны чорт схаваўся ў Свіслачы, але праз імгненне ўсплыў і працягнуў Кастусю яго звычайны аловак: «Трымай свой аловак. А за тое, што не хлусіў, я падарую табе залатую рэч. Усё, што ты намалюеш залатым алоўкам, будзе ацэньвацца на выдатна і выдатна прадавацца...»

Так і адбылося. Усё, што Кастусь Шаранговіч маляваў залатым алоўкам, падораным Вадзянікам, выдатна прадавалася і ацэньвалася на выдатна. Добра, што хлопец быў няскваппным чалавекам, маляваў і прадаваў роўна столькі, каб хапала на сціплае жыццё. Кастусь рабіў малюнкі да дзіцячых кніжак і за такім заняткам дажыў да пяцідзесяці гадоў. У пяцьдзясят дактары знайшлі ў Шаранговіча рак. Гэтую кепскую навіну Кастусь панёс на бераг Свіслачы. Там ён сеў над глыбокай ямінай і расказаў пра сваю хваробу рачной вадзе. З-пад вады ўзняўся доўгабароды чорт і папрасіў Кастуся вярнуць залаты аловак. Шаранговіч вярнуў Вадзяніку яго аловак і пайшоў у майстэрню, дзе ўсё акуратна ўпарадкаваў і прыбраў. З прыбранай майстэрні мастак Шаранговіч патэлефанаваў усім сябрам і знаёмым, каб развітацца. Казаў, што з'язджае з мінскай Асмалоўкі, едзе жыць на возера Балатон. Але на Балатон Кастусь не паехаў. Ён паехаў на возера Нарач, дзе ў цішыні і спакоі пражыў свой апошні год.

## ВАРОНА, ЛУЖЫНА, ГОЛАС

Старыя асмалоўцы казалі мне, што першая пташка, якая прыляцела ў іх новапабудаваны элітны раён, была белая варона. Яна была такой чыстай і светлай, нібыта нейкі чарадзей абсыпаў яе цукровай пудрай ад дзюбы да кіпцяў. Нават язык у той вароны быў белым, а голас яна мела салодкі-салодкі. Штовечар уся Асмалоўка слухала спевы белай вароны. Птушка праспявала для асмалоўцаў усё лета і ўвесь цёплы

верасень. На пачатку кастрычніка прайшлі вялікія дажджы. Усе падумалі, што белая варона больш не заспявае ў гэтым сезоне. Заспявала!

У халаднаваты вечар белая варона стала на край лужыны, у якой адбівалася вялікая поўня, і заспявала. Ніхто з асмалоўцаў ніколі не чуў песні, больш пранікнёнай і кранальнай за гэтую. Пташка спявала пад святлом поўні, якое зіхацела ў спакойнай вадзе. Варона зайшла ў срэбную ваду і спявала да самай раніцы. Калі птушка стамілася і хацела выйсці з лужыны, то не змагла: мароз ператварыў срэбную ваду ў срэбны лёд. Белая варона спрабавала вырвацца з ледзянога палону. Ад напругі яна ўся пашарэла і счарнела. Ад холаду яе салодкі голас прапаў назаўжды.

З зямлі ў неба ўзнялася ўжо не белая варона, а звычайная, адно што з вялікімі кавалкамі срэбнага лёду на лапах. Цяпер у Асмалоўцы, як і па ўсім Мінску, лётаюць і разгульваюць самыя звычайныя вароны, але старыя людзі любяць згадваць белую птушку з салодкім голасам.

## РАЁН, ДОМ, ЧОРТ

Няма вечнага пад месяцам. Усё плыве і змяняецца. На змену старому прыходзіць новае. Старое памірае і рассыпаецца ў пыл. Стары раён з двухпавярховымі дамкамі было вырашана пусціць пад знос. Добразычлівыя архітэктары сабралі жыхароў і паабяцалі ім добрае жыллё ў новых дамах. Ну хто не хоча памяняць старое і паўразваленае на новае і трывалае? Большасць пагадзілася на пераезд, але знайшліся і тыя, хто не захацеў перабірацца з наседжанага месца. Калі ёсць плюсы, значыць, і мінусы праявяцца.

Самым актыўным змагаром з новым быў Сяргей Мяржынскі. Ён пачаў падбухторваць народ не з’язджаць са старых дамкоў. Сяргей прыдумаў назваць стары раён Асмалоўкай і надаць яму статус архітэктурнай каштоўнасці. Актывіст пачаў кожную нядзелю хадзіць у касцёл і прасіць Бога, каб дапамог уратаваць старыя будыніны. Бог маўчаў. Мяржынскі прасіў і прасіў Божай ласкі, але адказам была ці-

шыня. Тады Сяргей перабраўся са сваімі просьбамі з касцёла ў царкву, але і там была адно задымленая ціша. Мужчына наведаў сінагогу і мячэць. Бог не адказваў. Адчай падштурхнуў спадара Мяржынскага ў абдымкі да чорта.

Уся Асмалоўка ведала пра кепскі дом на Камуністычнай. У тым доме нумар дваццаць чатыры можна было прадаць чорту сваю душу. Адчайныя мінчукі прыходзілі ў кепскі дом і прасілі ў чорта дапамогі. Нячысты ніколі не маўчаў, ён заўжды адказваў. Сяргею Мяржынскаму не трэба было далёка хадзіць, бо сам ён і жыў у праклятым доме. Сяргей паклікаў чорта і папрасіў дапамогі ў справе выратавання Асмалоўкі. Чорт узяўся дапамагаць, але паставіў умовы. Раён ён выратуе, яго ніхто зносіць не стане, але чортаў дом разбураць, а на яго месцы пабудуюць новенькі кепскі дом.

Колькі Сяргей ні прасіў нячыстага, колькі ні спрабаваў угаварыць не разбураць архітэктурны ансамбль, чорт стаяў на сваім: «Вам — старое, а мне — новае!» Давялося Сяргею саступіць брыдзе свой дом і сваю зямлю. Толькі гэта былі не ўсе патрабаванні. Нячысты браўся ратаваць Асмалоўку з таго моманту, як завалодае бессмяротнай душой спадара Мяржынскага. На самазабойства Сяргей ісці адмовіўся, тады чорт наслаў на яго рак. Чалавек згарэў за тры тыдні. Душа яго перайшла ў чортавы лапы. Кепскі дом на Камуністычнай знеслі, а на яго месцы пабудавалі яшчэ больш высокі кепскі дом. Добразычлівыя архітэктары адступіліся ад Асмалоўкі. Раён працягвае паціху старэць і разбурацца. Пра ахвяру Сяргея Мяржынскага мінчукі стараюцца не ўспамінаць.

## МУРАШКІ, МЫШЫ, ЗМЕІ

Пасярод Асмалоўкі стаіць дзіцячы садок. Шэры цагляны будынак не вельмі добра ўпісваецца ў пасляваенны стыль гэтага раёна. Не ўпісваецца, бо збудавалі садок значна пазней. А раней на яго месцы стаяў прыватны дамок Расціслава Кіпцюра-Лусты. Гад быў несусветны той стары Расціслаў. Каб Кіпцюр-Луста быў звычайным гадам, дык мужчыны не палілі б яго складзены з сасновых бярвёнаў крываваты дамок.

Расціслаў меў вялікія схільнасці да чорнага вядзьмарства. Ён чараваў і ліхадзейнічаў.

Пачалося з таго, што вядзьмак нагнаў у Асмалоўку процьму дробных рудых мурашак. Яны панабіваліся ў цукар, у печыва, у цукеркі. Мурашкі папсавалі ўсё салодкае. Людзям давялося павыкідаць не толькі печыва ды цукар, нават слоікі з варэннем давялося павывозіць на сметнік. За мурашкамі ў Асмалоўку прыйшлі мышы. Яны згрызлі і папсавалі тое, што мурашкі абыходзілі. Мышы грызлі сала і мяса, макароны і крупы, кардон і паперу. Двойчы ў Асмалоўку наведваліся брыгады з санэпідэмстанцыі. Мужчыны ў зялёных камбінезонах залівалі Асмалоўку атрутай. Першы раз супраць мурашак, другі — супраць мышэй. Атрута дапамагла. Мурашкі і мышы пазнікалі. Шкоды яны нарабілі шмат, але ў Асмалоўцы іх павыводзілі.

Цяжэй за ўсё было са змеямі. Гадзюкі пачалі з’яўляцца ў самых неверагодных месцах... У ложку, пад прасцінамі. У каструлях. У кішэнях кажухоў і палітонаў. Людзі палохаліся да страты прытомнасці. Жудасць ахапіла ўсіх жыхароў Асмалоўкі. Усіх, акрамя ведзьмака Расціслава Кіпцюра-Лусты. Гад радаваўся. Хадзіў па Мінску падвяселены самагонам і выхваляўся, што трымае ў страху ўвесь свой раён.

Асмалоўскія мужчыны пачулі выхвалянні ведзьмака. Уночы на таемным сходзе мужчыны вырашылі спаліць жыўцом Кіпцюра-Лусту. Яны падпёрлі дзверы яго дома бервяном, каб вядзьмак не змог уцячы. Аблілі сцены газаю і падпалілі. На вокнах у дамку былі жалезныя краты. Так што вядзьмак мусіў загінуць у полымі. Павінен быў, але не загінуў, бо ператварыўся ў вялізнага гругана. Калі ахоплены агнём дах праваліўся, людзі пабачылі, як у слупе дыму падымаецца ў неба вялікі птах. Ён зрабіў кола над Асмалоўкай і паляцеў у бок плошчы Перамогі... Недзе праз год на папялішчы збудаваўся самы звычайны мінскі дзіцячы садок.

## БУТЭЛЬКА, ШКЛЯНКА, АГУРКІ

Жыў у Асмалоўцы Жэнік Шчасны. Называлі яго Жэнік-людаед. Шчасны быў ціхмяны і сціплы чалавечак. Ніякай шкоды людзям не рабіў. Усё жыццё Жэнік прапрацаваў маляром на мінскіх будоўлях. У сваёй справе быў спрытны і дасведчаны. Заказаў меў многа, але сумленне не дазваляла яму рабіць любімую справу халтурна. Адным словам, Шчасны пражыў спакойнае і, можна сказаць, светлае жыццё, у якім была толькі адна чорная пляміна.

Аднойчы Жэнік Шчасны зайшоў у магазін «Цэнтральны», каб, стоячы, выпіць маленечкую бутэльку гарэлкі. Закускі маляр не браў. Вырашыў пастаяць каля стойкі, паглядзець на прахожых на праспекце і выпіць свае законныя чатыры разы па пяцьдзясят. Пасля ста грам да Жэніка падсунуліся п’янюгі. Адзін быў чырванатвары і сівы, другі — цемнаскуры і вусаты. П’янюгі папрасілі Шчаснага падзяліцца гарэлкай. Ён адмовіў. Тыя не адыходзілі і нылі. Жэнік чорт ведае як ператварыў п’янюг у зялёныя салёныя агуркі. Шчасны дапіў сваю запланаваную норму і закусіў гэтымі салёнымі агуркамі. Больш нічога выбітнага ў жыцці маляра не здарылася, але і гэтага хапіла, каб людзі на яго ўзлаваліся і пачалі клікаць Жэнікам-людаедам.

## РЭСТАРАН, ВАКЗАЛ, СКАРБОНКА

Алеся Бажок працавала афіцыянткай у прывакзальнай рэстарацыі «Вясёлка». Наглядзелася на розных крымінальных асоб і вычварэнцаў. Наслухалася як салодкіх кампліментаў, так і горкіх зняваг. Вопыт у барацьбе за выжыванне ў прывакзальнай афіцыянткі быў вялікі. Здавалася, што яе мала што можа здзівіць і напалохаць.

Апоўначы Алеся Бажок спакойна ехала на метро да станцыі «Плошча Перамогі» і далей пешшу дабіралася ў Асмалоўку. На вуліцы Чырвонай Алесі зрабілася страшна. На скрыжаванні пад ліхтаром стаялі тры мужчыны пачварнага выгляду. «Зараз схопяць, згвалцяць і заб’юць!» — падумала Алеся Бажок і ўся сцялася так, што з высокай прыгожай маладой

дваццаціпяцігадовай жанчыныператварылася ў хударлявага адзінаццацігадовага хлапчука. Пачвары запынілі хлапчука і папыталіся, што ён робіць пасярод ночы на вуліцы. Хлапчук схлусіў, сказаў, што праводзіў на чыгуначны вакзал сястру, якая з’ехала ў Берлін. Мужчыны пахвалілі хлопца за ахову сястры і далі яму партманет, поўны даляраў і еўра. Хлапчук прыйшоў у сваю Асмалоўку, зайшоў у пад’езд, сеў на драўляныя прыступкі і праз якую хвіліну вярнуўся ў аблічча Алесі Бажок. Раніцай афіцыянтка схавала падораныя грошы ў скарбонку, а партманет выкінула.

## КУХАР, ВАВЁРКА, ГОЛУБ

Здарылася тое ў даўнія часы, калі ў мінскіх парках восенню яшчэ палілі лістоту. Яе зграбалі ў вялізныя кучы і падпальвалі з некалькіх бакоў. Сіні дым вісеў у жоўтых парках.

Праз такі задымлены парк ішоў з Асмалоўкі ў рэстарацыю «Журавінка» кухар Пятрусь Брыво. Абмінаючы падпаленую кучу, Пятрусь пабачыў на лістоце, ахопленай агнявым колам, рудую вавёрку. Брыво пашкадаваў яе. Раскідаў кола агню і выпусціў звярка на волю. Вавёрка падзякавала выратавальніку і падаравала яму здольнасць разумець мову ўсіх, хто мае хвост. З адной толькі кепскай умовай была дадзена Петрусю гэтая чароўная здольнасць: калі ён раскажа пра яе каму з людзей, дык у той жа момант і памрэ. Пятрусь збіраўся жыць доўга, таму моўчкі слухаў вясёлыя показкі вераб’ёў і пафасныя вершы сабак, чарадзейныя казкі катоў і саркастычныя байкі папугаяў.

Так было, пакуль Брыво не пачуў апавяданне голуба. Той расказваў сваёй галубцы, як бачыў праз акно голую жонку кухара, якая здраджвала мужу з вядомым у Асмалоўцы прыгажуном — маёрам міліцыі Базылём Шалевічам. Кроў закіпела ў жылах кухара. Вочы наліліся вогненнай чырванню. Розум затуманіла чорная злосць. Пятрусь пайшоў і абвінаваціў жонку ў здрадзе. Тая аднеквалася і адхрышчвалася. Падмануты Брыво на яе насядаў. Ён назваў імя яе палюбоўніка, але жонка ўсё адно не прызнавалася ў сваёй блудлівасці. Ашалелы ад злосці кухар не вытрываў і расказаў жонцы-здрадніцы пра вы-

ратаваную з полымя вавёрку, якая падаравала яму здольнасць разумець мову хвастатых, расказаў — і паваліўся на падлогу. «Лепш бы чароўная вавёрка падаравала табе разуменне мовы рагатых!» — гэта было апошняе, што пачуў у нашым несправядлівым свеце раўнівы кухар Пятрусь Брыво.

## ШКОЛА, ТЭХНІКУМ, ІСПЫТЫ

У пяцікласніка Міці Васілеўскага памерла маці. Такое здараецца. Яна захварэла, яе паклалі ў бальніцу, а праз месяц і тры дні яе пахавалі. Уся Асмалоўка прыходзіла развітватваца з Галінай Васілеўскай. Яе суседзі любілі. Муж Галіны Васіль сумаваў нядоўга: праз паўгода ён прывёў у кватэру новую жонку, новую Галіну Васілеўскую. Яна была добрай жанчынай, але Міця яе цураўся, трымаўся як мага далей ад яе. Ніколі першым з ёй не загаворваў.

Вучыўся Міця пасрэдна. Школу прагульваў. Дайшло да таго, што настаўніца прыйшла ў Асмалоўку і наскардзілася на хлопца бацькам. Бацька і мачаха насварыліся на свайго прагульшчыка. Пагражалі адлупцаваць, калі не возьмецца за розум. Міця зусім і не збіраўся брацца за розум. Сам бы ён ніколі не стаў добра вучыцца. Ды, на яго шчасце, здарылася дзіва. Калі ў кватэры Міця заставаўся адзін, там пачала з'яўляцца яго нябожчыца маці. Яна старанна рабіла з сынам усе урокі. Пісала з ім сачыненні. Начытвала яму дыктоўкі. Пераправярала матэматыку.

Тры гады нябожчыца празаймалася з сынам. Яна падрыхтавала Міцю да паступлення ў архітэктурна-будаўнічы тэхнікум. Ён выдатна здаў іспыты і быў залічаны ў навучэнцы. Пасля гэтага нябожчыца Галіна больш не наведвалася ў сваю Асмалоўку.

## КАРОЛЬ, КАНЬЯК, КУРАНЯ

У кожнага чалавека свая мерка для велічы і нікчэмнасці. У кожнага раёна свае боўдзілы, жлабы і каралі. Самым вядомым каралём Асмалоўкі быў Барыс Шэры. Калі што не так

пайшло, калі нехта некага пакрыўдзіў ці абакраў, калі хтосьці кагосьці абразіў ці падмануў, адразу ішлі да Барыса Шэрага. Ён быў справядлівым, судзіў сумленна, ён мог прымусіць крыўдзіцеля выбачацца. Нават мог прымусіць вярнуць скрадзенае. Пакаранні кароль Шэры прысуджаў невялікія і няжорсткія. За гэта яго паважалі, за гэта яму і плацілі, за гэта і налівалі. Неслі Барысу Шэраму каньяк і смажаных куранят. Такая ў Барыса Шэрага была мерка для ўласнага шчасця — бутэлька каньяку ды залатое падсмажанае кураня. Ніхто на раёне і падумаць не мог, што кароль Барыс Шэры хутка сап'ецца. Ён спіўся, аслаб і пачаў страчваць павагу. Які кароль без павагі?

Тут і выступіў супраць караля Багдан Чорны. Ён прынёс Барысу пачастунак. Калі бутэлька стала пустой, а ад кураняці засталася адно пара костачак, Багдан Чорны прапанаваў Барысу Шэраму перадаць яму карону караля Асмалоўкі. Кароль вырашыў не саступаць свой тытул без бою. Ён ударыў Багдана так, што ў таго ажно сэрца спынілася. Яно спынілася, але не назаўжды, і Чорны ўдарыў Шэрага. Ды так, што ў Шэрага ў вачах пачарнела. Багдан з Барысам біліся так моцна, ажно з начнога неба паабсыпалася палова зорак. Уся Асмалоўка была засыпана зорным пылам. Уночы там было светла, як у летні сонечны дзень.

Бітва скончылася тым, што кароль Барыс Шэры кухонным нажом перарэзаў горла Багдану Чорнаму, а той за імгненне да смерці выхапіў пісталет і пусціў кулю пад кадык каралю. Нейкі час Асмалоўка жыла без караля, і за гэты час асмалоўцы так прывыклі да жыцця без крымінальных аўтарытэтаў, што і да дня сённяшняга месца караля там пустое.

## КАМЕНЬ, КАПЕЙКА, КАШАЛЁК

Грузчык Андрэй Рот ішоў дамоў, у Асмалоўку. Ён вяртаўся пасля трэцяй змены на хлебазаводзе. У горадзе стаяла месячная цёплая і светлая ноч. Андрэй пабачыў, як на прыпынку, што на вуліцы Багдановіча, спыніўся, пэўна ж, апошні тралейбус. З яго выскачыла маладая жанчына ў белай сукенцы, а за ёй на вуліцу выкаціўся чорт. Так, менавіта чорт! Кідалася

ў вочы яго дзікунства. Увесь нячэсаны, калматы, брудны. На галаве паблісквалі гладкія рогі. Дупную дзірку прыкрываў доўгі таўставаты хвост з раскудлачаным кутасом. На шырокіх растаптаных капытах накарэў глей.

Кіпцюрастай лапай чорт схапіў жанчыну за тонкую руку, але тая вырвалася, кінулася да грузчыка і выдыхнула: «Да-па-ма-жы!» Рот азірнуўся па баках і пабачыў на тратуары важкі камень. Андрэй схапіў яго, узняў над галавой і рушыў на агіднага чорта: «Зараз я цябе, зараза бруднахвостая, заб'ю!» Чорт адскочыў ад Рота і чхнуў. Ён чхнуў на ўсю вуліцу Багдановіча. Уся Асмалоўка мусіла прачнуцца ад такога гучнага чхання, але ніхто не прачнуўся. Рот працягнуў наступ. Ён тройчы паабяцаў чорту забіць яго на месцы. Нячысты спужаўся, паскакаў у бок піваварні, завярнуў за рог двухпавярховага дамка і прапаў у чорных ценях.

Жанчына ў белай сукенцы доўга дзякавала Андрэю і ўзнагародзіла яго чароўнай бліскучай капейкай. Сказала, што, пакуль яна будзе ляжаць у кашальку, у ім ніколі не скончацца грошы. Але багатым чалавекам грузчык Андрэй Рот стаць не паспеў, бо, пакуль ён адсыпаўся пасля трэцяй змены, жонка выграбла з яго кашалька ўсю драбязу і аддала сыну-першакласніку на школьны сняданак.

## МАЦІ, КРАМА, КАРОБКА

Сяржук Грай убачыў шэрую каробку выпадкова. Ён бязмэтна бадзяўся па горадзе. Настрой меў пахавальны. У бальніцы памірала маці Сержука. Дактары давалі ёй толькі тры дні жыцця. Грай і сам не ведаў, чаго зайшоў у краму «Каробкі». Якіх там толькі каробак не выставілі! Вялікія і малыя, кардонныя і папяровыя, стракатыя і аднатонныя, клятчастыя і паласатыя. Былі каробкі памерам з куфэрак, а былі зусім маленькія, для пярсцёнкаў і завушніц.

У самым далёкім ад дзвярэй і цемнаватым кутку гандлёвай залы Сяржук Грай пабачыў шэрую каробку. Памер яе быў прыблізна як у каробкі з-пад жаночых чаравічкаў. На ёй паблісквала белая наклейка з надпісам: «Калі ты пахаваеш

прах свайго любімага чалавека ў нашай каробцы, мы гарантуем уваскрашэнне!» Грай схапіў каробку і пайшоў да прадаўшчыцы. Маладая чарнакосая прадаўшчыца, падобная да персідскай прынцэсы, пацвердзіла Сержуку праўдзівасць слоў з белай наклейкі. Крама дала гарантыю на год.

Пасля крэмацыі трупа сын перасыпаў прах маці ў шэрую каробку і пахаваў пад бацькоўскі крыж. Тут варта сказаць, што за шэрую каробку Грай выклаў вялікія грошы — свой заробак за тры поўныя месяцы. Таму праз год Сяржук зайшоў у краму «Каробкі» і спытаў, чаму яго маці не ўваскрэсла. Падобная да прынцэсы прадаўшчыца сумным голасам паведаміла наіўнаму пакупніку, што крама гарантавала ўваскрашэнне шэрай каробкі, а не чалавека. Расчараваны Сяржук Грай спачатку не хацеў, а потым падумаў і купіў уваскрэслую з нябыту шэрую каробку: а раптам некаму ў яго Асмалоўцы і спатрэбіцца?

## САБАКА, РОГІ, СКАРБ

Юрась Холад кожную пятніцу заходзіў у «Цэнтральны» ўніверсам. Там стойма ён з'ядаў слойку са шпінатам. Так закусвалася сто грам гарэлкі. Пятнічны пачастунак Юрась дазваляў сабе пасля лекцый, якія чытаў ва ўніверсітэце. Гісторык Холад быў кансерватарам, ён заўжды глядзеў у той бок, куды раіла глядзець дзяржава. Калі загадвалі глядзець на Усход, Холад паварочваў твар на Усход, калі на Захад — на Захад. Такіх кансерватараў цэняць у адукацыйнай сістэме. Юрась ганарыўся тым, што яго высока цэніць начальства, таму не дазваляў сабе выпіваць больш за сто грам і з'ядаць больш як адну слойку са шпінатам. Толькі кожная сістэма рана ці позна дае збой.

Аднойчы Холад сам не заўважыў, як заказаў другія сто грам і другую слойку. Ён нават сам на сябе насварыўся за гэткі недарэчны ўчынак, але выпіў і з'еў усё заказанае. Захмялелы лектар прайшоў ад «Цэнтральнага» праз парк у сваю Асмалоўку. Ён так хадзіў пяць разоў на тыдзень. Па дарозе нічога не здарылася. Нечаканае відовішча сустрэла Юрася Холада на ганку яго двухпавярховага жаўтасценнага дамка. Рагаты сабака сядзеў на ганку і добразычліва пазіраў на Холада чорнымі

вачыма. Юрась ніколі не бачыў рагатага сабаку, таму спыніўся, каб паразглядаць белыя, гладкія і вострыя рожкі. Сабака ўстаў і адбегся ад цікаўнага выкладчыка дзяржаўнай гісторыі. Холад пайшоў за ім. Сабака перабег вуліцу і накіраваўся да крамы «Суседзі», адтуль ён спусціўся на плошчу Перамогі, а з яе завёў п'янага Холада ажно на Вайсковыя могілкі. Там Юрась сеў на лавачку адпачыць. Ён стаміўся за працоўны тыдзень так, што пасля выпіўкі і шпацыру заснуў.

Прачнуўся Юрась пасярод ночы. За помнікам Якубу Коласу Холад убачыў бочку, поўную агню. Вакол яе стаялі прывіды. Юрась так змерз падчас сну на лаўцы, што забыўся на асцярожнасць і падышоў да бочкі, каб трохі сагрэцца. Самы высокі з прывідаў зірнуў на госця і прагудзеў:

— Мне здаецца, што паміж намі стаіць чалавек...

Прывучаны да падпарадкавання Холад спакойна загудзеў у адказ:

— Табе здаецца...

Гудзенне чалавека зусім не адрознівалася ад гудзення прывіду. Сагрэўшыся, Юрась Холад вырашыў паспытаць шчасця і загудзеў:

— Ці ёсць які варты ўвагі клад на Вайсковых могілках?

Высокі прывід пацiснуў празрыстымі плячыма:

— Мы прывіды, нашто нам клады?

Нечакана яму запярэчыў самы нізкі з прывідаў:

— КладЫ кладАмі, а клАды клАдамі... КладЫ без клАдаў і не кладЫ! На нашых Вайсковых кладАх самы каштоўны клад — пад Купалавым помнікам. Пад Коласавым таксама клад, але не такі каштоўны...

Юрась Холад, дазнаўшыся ад прывідаў пра клад, схадзіў дамоў, прынёс рыдлёўку і выкапаў з-пад помніка вялікі чыгун з золатам. Юрась ведаў, што золата — каварны метал, які вымагае пільнасці і разумнасці. Холад збываў залатыя манеты паступова. Здабытымі грашыма Юрась зрабіў даплату, каб абмяняць сваю цёмную аднапакаёўку ў Асмалоўцы на прасторную трохпакаёўку на плошчы Перамогі.

У памяць пра неверагоднае здарэнне гісторык Холад вырашыў заказаць у мастака карціну з выявай рагатага сабач-

кі. Ён спрабаваў заказаць карціну ў Ігара Цішына і Руслана Вашкевіча, але яны запрасілі за сваю працу даволі вялікія сумы. Тады Холад прыйшоў да мяне — і я намаляваў яму рагатага сабаку акрылам на паперы за сто еўра.

## МОРГ, ПРЫВІД, БЭЗ

Яраслаў Скаль пасля цяжкай працы на радыятарным заводзе любіў увечары выпіць з сябрамі. Аднаго разу гурт сабутэльнікаў купіў у самагоншчыцы літр самаробнай гарэлкі. Выпілі мужчыны самагонкі і патруціліся. Памерлі яны ў раздзявальні на родным заводзе. Там іх знайшлі і адтуль перавезлі ў морг. Лежачы на халодным стале пад белай прасцінай, Яраслаў Скаль і ператварыўся ў прывід. У такім выглядзе ён уцёк з морга і накіраваўся ў родную Асмалоўку, дзе жыў з самага нараджэння.

У Асмалоўцы прывід не пайшоў у сваю кватэру, а завітаў да Галіны Бортнік, якая ўжо год як лічылася яго нявестай. Яраслаў і Галіна запланавалі на восень сваё вяселле, таму Бортнік пусціла Скаля ў кватэру, пасадзіла за стол і пачаставала моцнай гарачай гарбатай. Калі Галя налівала ў кубкі гарбату, з яе пальца зляцеў заручальны пярсцёнак. Ён пакаціўся па дашчанай падлозе і заскочыў у глыбокую шчыліну. Галя ажно заплакала ад такой страты. Прывід Яраслава пачаў суцяшаць каханую. Ён паабяцаў выцягнуць пярсцёнак з-пад падлогі. Пальцы на яго правай руцэ выцягнуліся і зрабіліся тонкімі, як пруткі. Пальцы-пруткі прывід засунуў у шчыліну і выцягнуў з-пад дошак заручальны пярсцёнак. Галя ажно знямела ад убачанага. Яна першы раз сутыкнулася з нячыстай сілай.

Дзяўчына кінулася ў дзверы і выскачыла на двор. Галя Бортнік бегла праз родную Асмалоўку і крычала на чым свет стаіць, крычала так, нібыта яна ў пекле. У нейкі момант яна паспрабавала азірнуцца, каб глянуць, ці не даганяе яе нячысцік. Азірнулася. Наляцела на дрэўца бэзу, ударылася галавою аб ствол і павалілася на зямлю. Прывід Скаля падляцеў да дрэўца і хацеў выцягнуць з-пад яго Галіну, але водар бэзу не пусціў нячысціка да дзяўчыны. Прывід пачаў чхаць, ён чхаў так моцна, што ад гэтага рассыпаўся ў пыл.

З таго часу ў Асмалоўцы белы бэз лічыцца самай чыстай, можна нават сказаць, святой кветкай. У траўні букеты белага бэзу ў крыштальных вазах асмалоўцы ставяць на сталы ў сваіх кватэрах, каб напалохаць нячысцікаў і адзначыць прыход новага цяпла і новага лета.

## ШКАРПЭТКА, МАШЫНА, РУЧНІК

Пра неверагоднае здарэнне са старой шкарпэткай мне расказаў Мікола Могаль з Асмалоўкі.

Мікола — малады чалавек з амбіцыямі. Ён марыць пра багацце і бесклапотнае жыццё на востраве Крыт, але сёння ён працуе школьным настаўнікам фізікі і жыве ў Мінску на вуліцы Чычэрына.

Неяк раніцай Могаль чысціў зубы. Шараваў зубы шчоткай і пазіраў на шкарпэткі, што ляжалі на пральнай машыне. Трэба было адразу пакласці іх у скрыню з бруднай бялізнай, а Мікола паленаваўся і кінуў шкарпэткі на машыну.

Якія ў мяне танныя шкарпэткі! Таннейшых за іх і не знойдзеш. Трэба купіць больш дарагія, а гэтыя старыя выкінуць. Такі план склаўся ў галаве настаўніка фізікі. Могаль спаласнуў рот і хацеў перакласці шкарпэткі з машыны ў скрыню. Ён працягнуў руку да бруднай шкарпэткі, а тая ўзяла і падскочыла. Яна ўзнялася, перакулілася ў паветры і дала нырца ў пыльную цемру паміж пральнай машынай і сцяной. Настаўнік Могаль засунуў руку ў пыльную, поўную павуціны цемру, каб дастаць шкарпэтку, але не дастаў. Рука была занадта кароткая. Давялося адсоўваць машыну ад сцяны. Даставаць шкарпэтку з бруднага кутка. Прыносіць пыласос, каб папрыбіраць з кутка павуцінне і пыл.

Пасля прыбірання настаўнік паабяцаў шкарпэтцы, што не стане яе выкідаць. Мікола нават папрасіў прабачэння ў абедзвюх брудных шкарпэтак. Ён паставіў машыну на месца і паглядзеў на ручнік, які вісеў на цёплым змеевіку над машынаю, і падумаў: «Які ў мяне танны ручнік». У гэты момант ручнік споўз з бліскучага змеевіка і слізгануў у шчыліну паміж сця-

ной і пральнай машынай. Настаўнік Могаль не стаў даставаць ручнік, бо ўжо моцна спазняўся ў школу.

Ручнік праляжаў за машынай да самага вечара. Калі Мікола Могаль вярнуўся дамоў, ён адсунуў машыну, выцягнуў ручнік, скамечыў яго і выкінуў у пакет са смеццем.

Расказаўшы мне пра гэта здарэнне, Мікола яшчэ спытаў, ці не асуджаю я яго за нястрыманасць і выкіданне старога ручніка, які мог бы яшчэ нейкі час праслужыць анучай для мыцця падлогі. Я запэўніў Могаля, што падтрымліваю яго ў намерах купляць больш дарагія і больш практычныя рэчы.

## СУРВЭТКІ, ПІЛЮЛІ, ПЕЧЫВА

Віктар Коўш любіў жонку. Ён так яе любіў, што заплакаў, калі даведаўся пра кошт лекаў, якія выпісаў ёй доктар. Такіх сродкаў у Віктара і блізка не было. У свае семдзесят пяць ён даўно патраціў усе заробленыя і назапашаныя грошы. Жыў ад пенсіі да пенсіі. Жыў блізка да жабрацтва. З аптэкі, што на плошчы Перамогі, Коўш вярнуўся ў зацішную двухпавярховую Асмалоўку. Пастаяў каля кавярні, а потым набраўся нахабства і сеў на белае крэсла за белы столік. Афіцыянт падбег з пытаннем:

— Што будзем заказваць?

— Хвілінку спакою. Хвілінку пасяджу, адпачну і пайду. Мне тут блізка, за рог завярну — і я дома...

Афіцыянт грэбліва хмыкнуў, але не стаў праганяць старога Каўша. Віктару страшэнна не спадабалася хмыканне афіцыянта. Знявага чулася ў тым хмыканні. Ад знявагі і стомы ў Каўша выступіў на лбе пот. Ён узяў сурвэтку і выцер змоклы лоб. Пакуль стары адпачываў і думаў пра хворую жонку, яго пальцы з кавалачка сурвэткі скаталі шарык. Белы папяровы шарык нагадаў Каўшу аптэчную пілюлю. Віктар узяў чыстую сурвэтку і радасны пайшоў дадому.

У кухні ён накатаў з сурвэткі маленечкіх папяровых шарыкаў і ссыпаў іх у шкляную аптэчную пляшачку. Яе ён паказаў хворай жонцы і сказаў:

— Бачыш, якія цудоўныя пілюлі я прынёс з аптэкі!

— Пэўна, апошнія грошы на іх спусціў! — жонка зрабіла выгляд, што засмуцілася, але насамрэч узрадавалася.

— Па адной пілюлі тры разы на дзень. Зразумела, што пасля ежы. Праз тыдзень ты ў мяне падымешся з ложка... І не спрачайся!

Праз тыдзень жонка Віктара Каўша Раіса і сапраўды паднялася з ложка. Кепскія прагнозы доктара не спраўдзіліся. Раіса ачуняла. Віктар вырашыў адзначыць падзею. Ён схадзіў на плошчу Перамогі, купіў у краме «Каравай» салодкага печыва і вярнуўся ў Асмалоўку. Каля кавярні яму зрабілася кепска. Ён прысеў на белае крэсла за белы столік, каб хвілінку адпачыць, і раптоўна памёр. Пытанне нахабнага афіцыянта «Што будзем заказваць?» Віктар Коўш ужо не пачуў.

## РАДЫЁ, ТЭЛЕВІЗАР, КАМП'ЮТАР

Разалія Гуд гадавала сына Леаніда адна. Ад сур'ёзных людзей жанчына пачула, што ў горадзе завялася Дамавіна з чырвонымі вуснамі. Казалі, што, калі нехта з дзяцей застаецца дома адзін, Дамавіна даведваецца праз радыё, тэлевізар ці камп'ютар адрас самотнага, прылятае туды і з'ядае яго. Таму, перад тым як пайсці на работу, Разалія забараніла сыну ўключаць камп'ютар, тэлевізар і радыё.

Не паспела маці зачыніць дзверы, як непаслухмяны сын ужо ўключыў радыё. Яно крыху пасіпела-пагрукатала-памуркала і загаварыла:

— Хлопчык-хлопчык, ты застаўся дома адзін. Твая маці пабегла на работу. Назаві мне вуліцу, на якой ты жывеш. Я прыйду да цябе, і мы разам пагуляем у карты.

Леанід вырашыў не размаўляць з невядомым жаночым голасам. Ён вырашыў не адказваць, бо здагадаўся, што з ім размаўляе не жанчына, а Дамавіна з чырвонымі вуснамі.

— Не бойся мяне. Назаві мне вуліцу, на якой ты жывеш, я прыду, і ты пабачыш праз акно, што я зусім не пачварная. Я нават вельмі прыгожая... Не хочаш называць вуліцу? Не трэба. Я ўжо ведаю яе. Ты жывеш у Асмалоўцы на вуліцы Чычэрына.

Леанід Гуд разам з маці Разаліяй і сапраўды жыў у Асмалоўцы на вуліцы Чычэрына, таму хлопец моцна спалохаўся і выцягнуў вілку з разеткі, абясточыўшы радыё.

Нейкі час Леанід прасядзеў у цішыні. Страх прапаў, і хлопцу зрабілася сумна. Так сумна, што ён уключыў тэлевізар. Экран паміргаў-пастракатаў-падрыжаў, і на ім з'явілася чорная Дамавіна з малінавымі вуснамі на тарцы. Вусны заўсміхаліся і мілагучным голасам загаварылі:

— Хлопчык-хлопчык, ты не паслухаўся маму і ўключыў тэлевізар, бо табе зрабілася сумна. Я магу прыляцець і развесяліць цябе гульнёй у карты. Я ведаю, што ты жывеш на вуліцы Чычэрына. Цяпер ты мне скажаш нумар свайго дома, і я прылячу. Кажы...

Леанід вырашыў не адказваць. Ён пабойваўся вялікіх малінавых вуснаў.

— Не хочаш казаць нумар дома — і не трэба, бо я ведаю, што ты жывеш у доме нумар сем.

Хлопец і сапраўды жыў на Чычэрына, 7, а таму спужаўся і выцягнуў вілку тэлевізара з разеткі. Экран згас.

Каб не ўключаць камп'ютар, Леанід вырашыў памаляваць на паперы. Ён намаляваў тэлеэкран, а на ім чорную Дамавіну з малінавымі вуснамі. Дамавіна на малюнку выглядала зусім не страшнай, яна здавалася нават добрай. Таму Леанід і наважыўся ўключыць камп'ютар. На маніторы імгненна з'явілася маленечкая чорная Дамавіна. Такая маленькая, як футарал ад мамінай ружовай памады для вуснаў. Яна шэптам папрасіла Леаніда назваць нумар сваёй кватэры.

— Не скажу я нумар кватэры, бо маці забараніла ўключаць камп'ютар і размаўляць з незнаёмымі дамавінамі.

— Не трэба лгаць. Мы з табой ужо пазнаёміліся і праз радыё, і праз тэлевізар. Не хочаш называць нумар кватэры? Не называй, я і так яго ведаю. Ты жывеш у кватэры нумар адзін. Правільна? Правільна — Чычэрына, дом сем, кватэра адзін! Я ў яе якраз і залятаю.

Леанід хуценька абясточыў камп'ютар. Ён спадзяваўся, што гэта спыніць Дамавіну з малінавымі вуснамі. Не спыніла. Яна

заляцела ў кватэру, разявіла доўгую, як у кракадзіла, пашчу і з'ела сямігадовага Леаніда Гуда.

Правільна казала Разалія Гуд, што ўсе дамавіны — людаедкі. Яна казала, а сын не слухаў. Вось і згінуў праз сваю непаслухмянасць.

## СРАКАНОЖКА, ДЗІВА, ПОХВАРУЧКА

Старажытная казка, якую расказала Ала Адамовіч з Асмалоўкі... Сраканожка лічыла сябе брыдкатварай. Не толькі яна так лічыла. Шмат хто з тых, хто бачыў зблізу Сраканожку, казаў пра яе паганае аблічча. Сраканожка жыла адна, яна даўно страціла надзею знайсці на сваім шляху вялікае каханне. З такім агідным аблічча, як у Сраканожкі, спадзявацца на каханне было справай безнадзейнай.

Але здарылася дзіва! У казках павінна здарацца дзіва дзіўнае, бо казка без дзіва — апавяданне пра гаўнавайну і гаўнамір. Дзіва было ў тым, што на сваім шляху Сраканожка сустрэла Похваручку, і яны закахаліся адна ў адну з першага погляду. Закахаліся і сталі жыць разам. Похваручка са Сраканожкай пражылі доўгае-доўгае і шчаслівае-шчаслівае жыццё.

## КАПЕЙКА, РАДЗІМКА, БУТЭЛЬКА

Кірыл Шруб рабіў у тралейбусным дэпо механікам. Усё жыццё ён прапрацаваў на адным месцы. Жыў у Асмалоўцы, а на працу хадзіў у дэпо, якое некалі мясцілася непадалёк ад плошчы Перамогі. Бацьку свайго Кірыл не помніў: той памёр, калі сыну толькі год споўніўся. Хлопчыка ставіла на ногі маці, відная афіцэрская ўдава. Кавалераў у яе было шмат, але не знайшлося сярод іх лепшага за афіцэра Шруба. Так яна і не выйшла другі раз замуж і памерла ў пуставатай і халоднай кватэрцы.

Перад тым як выправіцца ў незваротны шлях, старая Шрубіха паказала Кірылу на безыменным пальцы сваёй левай рукі чырванаватую радзімку. Яна была акуратная і круглая, як капеечная манета. У Кірыла на тым самым пальцы была

такая ж манета радзімкі. Шрубіха сказала сыну, што, калі ён застанецца без грошай, трэба будзе пацерці радзімку ўказальным пальцам правай рукі. Моцна пацерці. Тады маці пачуе яго і прынясе з іншасвету грошы. І прыносіла.

Калі Кірыл выйшаў на пенсію, то пачаў выпіваць, так піў, што, бывала, прапіваўся да поўнага безграшоўя. Тады ён цёр сваю радзімку, і маці прыносіла сыну пару-тройку рублёў. Шмат не прыносіла, толькі некалькі рублёў, каб ён мог дацягнуць да наступнай пенсіі. Шрубіха казала, што такая ж манетка-радзімка была і ў яе маці, і ў яе бабулі. Шкада ёй было толькі, што Кірыл Шруб пражыў век не бабнікам, а бабылём і чароўная радзімка не перадалася ў наступныя пакаленні. Ён і сам пра гэта часта шкадаваў, калі з сябрамі распіваў бутэльку віна, купленую на матчыны рублі з іншасвету.

Зусім нядаўна Кірыл выправіўся да маткі, і асмалоўскія горкія п'яніцы бядуюць, што страцілі такога чароўнага сабутэльніка.

## ПРЫНЦЭСА, КАРАЛЕВА, ПАВЕТРА

Нейкі час у Асмалоўцы жыла прынцэса. Так-так, сапраўдная прынцэса з Няполу. Асмалоўцы не ведалі, што яна з Няполу, і паміж сабой называлі яе цыганскай прынцэсай. Яна, як і ўсе сапраўдныя прынцэсы, ніколі не какала. Прынцэсы не какаюць! Пра гэта ведаюць нават дзеці ў школах.

З Асмалоўкі прынцэса вярнулася ў свой Нянол. Яе паклікалі, яе запрасілі, яе вярнулі, каб яна выйшла замуж і стала каралевай. Прынцэса вярнулася ў Няпол, выйшла замуж і неўзабаве стала сапраўднай каралевай. Стала каралевай — і перастала сікаць. Каралевы не сікаюць! Няпольская каралева харчавалася чыстым паветрам у каралеўскім садзе.

Пакуль яна жывілася садовым паветрам, ніякіх праблем не было. Праблемы пачаліся ў Парыжы, калі каралева Няполу прыехала ў Францыю. Паветра ў сталіцы было такое бруднае, што каралева пачала страшэнна кашляць і моцна пукаць. Давялося тэрмінова вяртацца ў Няпол. Самыя розныя дактары

ратавалі хворую каралеву. Ратаваць ратавалі, ды не выратавалі. Каралева аглушальна пукнула і памерла.

Калі ў Асмалоўцы даведаліся пра заўчасную смерць іх цыганскай прынцэсы, дык шмат хто з тубыльцаў горка плакаў.

## БЕЛЫ, ЖОЎТЫ, ЗЯЛЁНЫ

У цеснай аднапакаёвай кватэрцы на першым цёмным і сырым паверсе некалі жыла сям'я Крыловічаў — бацька, маці і дзве дачушкі-блізняткі. Асмалоўскія двары былі ў захапленні ад блізніц Іры ды Раі. Пабачыш іх — і язык твой сам павернецца, каб прамовіць: «Анёлы». Крыловічы на ўсе святы апраналі дачушак у строі з крыламі. То птушак з іх зробяць, то анёлаў, то матылькоў...

На адно з Купалляў блізніцы разгульвалі па Асмалоўцы з матыльковымі крыламі на спінах. Іра была срэбна-белым матыльком, а Рая — залаціста-жоўтым. Асмалоўцы бачылі, як сёстры перабягалі вуліцу Максіма Багдановіча і як грузавік наехаў на блізніц. Машына збіла дзяцей і памчала далей. Калі асмалоўцы падбеглі да мёртвых дзяўчатак, дык пабачылі дзіва дзіўнае. Мёртвая Іра ператварылася ў жывога маленькага белага матылька, а мёртвая Рая зрабілася жоўтым матыльком. Сёстры сталі матылькамі і ўзняліся ў начное зялёнае неба.

## ВУЛІЦА, ПЛЯЦ, БАЛКОН

Злодзей Мікіта Трасца з дзяцінства не даваў ціхай Асмалоўцы спакойна спаць. Асмалоўка спакойна засынала толькі тады, калі Трасцу выпраўлялі ў калонію для непаўналетніх, а пазней — садзілі ў турму. Паскудства Мікіты было ў тым, што злачынствы прыносілі яму радасць, якая не залежала ад цяжкасці і памераў ліхадзейства. Калі Трасца цвіком пісаў мацюкі на ледзь жывой машыне-інвалідцы, ён гэтак жа шчыра радаваўся, як і пасля паспяховага абрабавання ювелірнай крамы «Яхант».

Праз Мікіту пакутавала ўся Асмалоўка. Камяні ляцелі ў вокны. Чыстая бялізна зрывалася з вяровак і кідалася ў ка-

люгі. Прападалі санкі, веласіпеды і матацыклы. Прапорваліся шыны аўтамабіляў. Псаваліся замкі на дзвярах і скрынкі для пошты. Адзін Трасца спараджаў цэлую хвалю вандалізму. Можна казаць, Мікіта дастаў Асмалоўку.

Жанчыны дакаралі сваіх мужчын, што тыя баяцца і бяздзейнічаюць. Асмалоўцы строілі планы помсты. Асобныя радыкальныя мсціўцы прапаноўвалі задушыць Трасцу. Гуманісты выступалі супраць смяротнага пакарання. Пакуль ішлі дыскусіі і планы помсты заставаліся адно планамі, Мікіта працягваў рабіць злачынствы.

Дайшло да таго, што з неба спусціліся два чарнакрылыя анёлы. Яны схапілі ліхадзея за ногі і ўзнялі пад белыя аблокі над піўзаводам. Анёлы пранеслі Трасцу над вуліцай Кісялёва і кінулі з неба на пыльны пляц каля крамы «Яхант».

Мікіта разбіўся — і ўся Асмалоўка ўздыхнула з палёгкай. У афіцыйнай версіі смерці не было нават згадкі пра жорсткіх анёлаў. Там пісалася, што злачынца Мікіта Трасца быў п’яны, упаў з балкона, разбіў галаву і памёр.

## ШПАЛЕРЫ, АЛЬТАНКА, БУТЭЛЬКА

Вольга Патас неяк купіла бутэльку мацаванага віна «Ізабэла». Віно яна рыхтавала для сяброўак Светы і Галі. Тыя абяцалі Вользе дапамагчы з паклейкай шпалераў. Патас наважылася асвяжыць інтэр’ер у маленечкай аднапакаёўцы, што ў Асмалоўцы. Як кажуць, чакай зносу, а рамонт рабі. Патас рабіла касметычны рамонт. Пабяліла столь і планавала пераклеіць шпалеры ды пакласці свежую фарбу на старую сталярку.

Шпалеры жанчыны паклеілі хутка. Піць віно вырашылі на вуліцы, балазе жнівень стаяў сонечны і цёплы. Прыйшлі да опернага тэатра, селі ў алеі на лаўцы, дасталі з сумкі аднаразовыя шкляначкі, але бутэльку не адкаркавалі. Патас прапанавала пайсці ў іншы, больш утульны і ціхі сквер. Жанчыны згадзіліся і спусціліся ад тэатра да помніка Марату. У скверы было зусім ціха і спакойна, але Патас прапанавала пайсці ў альтанку, якая стаяла на беразе рэчкі.

Каля Свіслачы жанчыны адкаркавалі «Ізабэлу». Разліць віно па шклянках яны не паспелі, бо з зялёнай рачной каламуці вылез страшнатвары смярдзючы Балотнік, забраў у Патас бутэльку і тут жа выжлукціў усё віно проста з рыльца. Пустую бутэльку Балотнік пакінуў на падлозе ў альтанцы, а сам зайшоў і апусціўся ў рачную каламуць.

Вяртаючыся ў Асмалоўку, сяброўкі папракалі Патас за яе мітуслівасць. Казалі, што трэба было піць віно каля опернага, а не шлындаць з бутэлькай па горадзе. Вольга пагаджалася з сяброўкамі і нагаворвала на сябе.

Самым дзіўным момантам у гэтай гісторыі з рамонтам была не сустрэча з Балотнікам. Жанчын пацешыла другое дзіва. Калі яны вярнуліся ў кватэру да Вольгі Патас, дык знайшлі на стале закаркаваную бутэльку «Ізабэлы». Жанчыны выпілі па глытку салодкага віна ў гонар касметычнага рамонту — і пачуццё шчасця вярнулася ў іх душы.

## КВАТЭРА, ДВОР, ЁЛКА

Хворая Рыта Фурман прасядзела ў кватэры цэлых сямнаццаць гадоў. Як прывезлі дзяўчынку з радзільнага дома, так яна ўсё сваё маленства, дзяцінства і юнацтва пражыла ў маленечкім пакойчыку з акном, што выходзіла ў зацішны двор. Дактары прапісалі Рыце кватэрны рэжым. Дзяўчынка была такой слабенькай, такой кволенькай, такой хворай на незлічоную колькасць хвароб, што ўсе думалі: не сёння, дык заўтра яе не стане.

Але Рыта Фурман жыла, жыла і жыла. Глядзела ў акно і вучылася. Настаўнікі да дзяўчынкі не прыходзілі. Рыта была выдатным самавукам. Яна вывучыла самастойна ўсю чыста школьную праграму. Яе вывучэнне скончылася якраз перад Новым годам.

Рыта глядзела праз акно, як пасярод іх асмалоўскага двара ставілі высозную ёлку з металічнай зоркаю на вершаліне. Рыце Фурман страшэнна хацелася выйсці на двор і пастаяць пад упрыгожанай зіхоткай святочнай ёлкай. Пад яе акном якраз праходзіў малады чалавек. Рыта пастукала ў шыбу і запрасі-

ла яго да сябе ў кватэру, каб дапамог ёй апрануцца і выйсці ў двор да ёлкі. Малады чалавек дапамог дзяўчыне апрануцца ў матчына футра і правёў яе.

Стоячы пад ёлкай, Рыта Фурман адчула, што ўсе незлічоныя хваробы пакінулі яе цела і яна папраўілася. Дзяўчына сабралася падзякаваць маладому чалавеку за дапамогу, але яго нідзе не было. З хворай, кволай і слабенькай Рыта Фурман ператварылася ў самую звычайную дзяўчыну і зразумела, што найвялікшае шчасце не ў тваёй адметнасці, а ў тваёй звычайнасці.

## АСМАЛОЎКА, МАСЮКОЎШЧЫНА, КУРАСОЎШЧЫНА

Вяселлі ў Асмалоўцы любяць. Яно і зразумела, бо вяселлі любяць паўсюль. Якое жыццё без гаманкога застолля ды без палымяных танцаў? На вяселлі ў Алеся Крыгі спявала ўся Асмалоўка. Не абышлося без бойкі. Сцяпан Мурза так наспяваўся, наскакаўся і напіўся самаробнай гарэліцы, што асмялеў і сказаў: «Крыга, а твой шлюб не роўны. Жонка твая Аксана ўтрая прыгажэйшая за цябе!» За гэта Мурза атрымаў ад Крыгі далонню па шчацэ, а ў адказ з’ездзіў кулаком па носе жаніха і спусціў яму юшку. Алесь збіў Сцяпана з ног і затаптаў бы яго, каб мужчыны не адцягнулі баявітага жаніха ад скурчанай на зямлі ахвяры.

Праўду кажучы, роўных шлюбаў наогул не бывае. Заўсёды нехта ў новай сям’і багацейшы, а нехта разумнейшы за свайго нарачонага. Безумоўна, п’яніца Мурза меў рацыю, бо Аксана была нашмат прыгажэйшай за Алеся. Крыга яе доўга шукаў. Ён прывёз яе ў Асмалоўку ажно з Масюкоўшчыны. Мужчына страшэнна ганарыўся сваім выбарам. Ганарыўся да той пары, пакуль не даведаўся, што жонка Аксана — пярэварацень...

Уночы жанчына выходзіла на двор і ператваралася ў кошку. Ні адна сапраўдная кошка ў Асмалоўцы не магла за якіх дзесяць хвілін злавіць, задушыць і пакласці на ганку дзесяць мышэй. Аксана магла. Яна не толькі лавіла, душыла і рас-

кладвала мышэй на ганку, але і з’ядала іх потым. Раздзірала напалам і праглынала разам з лапамі і хвастамі.

Калі добразычлівыя суседзі расказалі Алесю пра прыгоды яго Аксаны, ён спачатку не паверыў. Давялося яму аднойчы ноччу на свае вочы пабачыцьператварэнне жанчыны ў кошку. Калі тая глынала парваных мышэй, Алесь Крыга не вытрываў, уцёк — і яго званітавала.

Ранкам пасля здарэння Крыга на таксі павёз сваю прыгажуню Аксану з Асмалоўкі ў Масюкоўшчыну. Ён адвёз яе ў дом да бацькоў і сказаў, што больш не хоча пра яе нават чуць. Цяпер у Асмалоўцы мышэй ловяць самыя звычайныя каты. А што з Алесем Крыгай? Шукае новы, больш роўны шлюб. Кажуць, што ўжо прыгледзеў сабе прыгажуню ў Курасоўшчыне. Сцяпан Мурза кажа, што хутка ў Асмалоўцы будзе новае вяселле. Гульнём!

## ПОШТА, МУЖЧЫНЫ, ДУША

Домна Ліст працавала на пошце. Уся Асмалоўка карысталася паслугамі той пошты на вуліцы Камуністычнай. Усе ведалі чарнавалосую прыгажуню Домну. Мужчыны ад яе былі ў захапленні, а жанчыны не любілі паштарку-прыгажуню. Тая давала падставы для агульнай нелюбові. Домна спакушала, а потым кідала жанатых мужчын. У яе была такая забаўка — разбіваць мужчынскія сэрцы. Цікава, што адрынутыя прыгажуняй мужчыны не трымалі на яе зла, а вось жанчыны тых мужчын злаваліся і шукалі магчымасці, каб адпомсціць за зняважаных мужоў.

Пасля доўгіх пошукаў асмалоўскія жанчыны знайшлі ў Сляпянцы ведзьмака, які за вялізныя грошы ўзяўся за псаванне чужога жыцця. Ён прыйшоў на пошту, дастаў з Домны Ліст яе хвастатую, падобную да пацука душу. Хвост душы вядзьмак завязаў тугім вузлом і вярнуў яе ў прывабнае цела паштаркі. Пасля гэткай прылюднай аперацыі Домна Ліст састрыгла свае густыя кудзеры, звольнілася з пошты і перастала разбіваць мужчынскія сэрцы.

## СПАБОРНІЦТВЫ, ПРЫСЯДАННІ, ПЕРАЕЗД

Жыла-была ў Асмалоўцы сям'я выдатных спартсменаў з красамоўным прозвішчам Скакун. Бацька, маці і дачка-школьніца выступалі на самых розных спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы і прывозілі медалі, сярод якіх і залатыя траплялiся. Асмалоўка паважала Скакуноў, было за што. Праўда, бацька Скакун меў адну заганную звычку: ён любіў ісці ў заклад з незнаёмцамі. Напрыклад, мужчына казаў, што зможа лёгка прысесці на адной назе сто разоў. Больш таго, у час прысядання ён будзе трымаць рукі за галавою, ашчаперыўшы пальцамі патыліцу. Незнаёмцы ставілі грошы на тое, што Скакун не зможа сто разоў прысесці на адной назе. А ён мог. Прысядаў. Ён выйграваў спрэчку кожны раз, ажно пакуль аднойчы на дзевяноста дзявятым прысяданні не паваліўся на зямлю мёртвым.

Асмалоўка спачувала сям'і Скакуноў, якія раптоўна страцілі мужа і бацьку. Цікаўныя папрасілі дачку-школьніцу расказаць, як памёр яе здаровы і дужы бацька. Дзяўчына расказвала і вырашыла паказаць, якія ўзорныя прысяданні рабіў яе любімы і здольны татуся. Яна заклала рукі за галаву, ашчаперыла пальцамі патыліцу, прысела на адной назе, паспрабавала ўстаць, не змагла і павалілася на зямлю мёртвай.

Скакуніха, пахаваўшы ў адзін дзень мужа і дачку, не стала жыць у Асмалоўцы. Яна з'ехала, перабралася ў Сляпянку і тамака паціху-патроху наладзіла новае жыццё.

## ТРУНА, КЛЕТКА, МЫШКА

У пенсіянера Васіля Маляўкі нарадзілася дачка Гэля. Жонка ў Васіля была зусім маладая, таму нейкі час пасля вяселля Асмалоўка асуджала пенсіянера за няроўны шлюб, але са з'яўленнем дачушкі злаязычнасць трохі сціхла. Васіль гадаваў Гэлю і нарадавацца не мог,назіраючы, як расце новы чалавек.

Ды ўсе мы ведаем, што за светлымі днямі надыходзяць цёмныя ночы. Гэля захварэла. Запаленне лёгкіх пачалося ў дзіцячых грудзях. Дзяўчынка згарэла за тыдзень. Плачучы і стогнучы, пахаваў Васіль сваю дарагую Гэлю Маляўку на

Кальварыйскіх могілках. Паклаў невялічкую труну ў пясок да сваіх бацькоў і дзядоў.

Праз сорак дзён пасля смерці Гэля вярнулася ў Асмалоўку да бацькоў. Прыйшла яна не ў выглядзе зграбнай дзяўчынкі, а ў выглядзе маленечкай зялёнай мышкі. Тая голасам Гэлі расказала Васілю, што цяпер яна будзе жыць на белым свеце зялёнай мышкай. Маляўка зрабіў са сталёвых прутоў прасторную клетку, каб які кот ці пацук не напаў раптам на мышку-дачушку.

У гэтай клетцы зялёная мышка і з'ехала з Асмалоўкі, калі памёр Васіль Маляўка. З'ехала яна, бо маці знайшла сабе новага маладога мужа ў Гародні. У Асмалоўцы кажуць, што Гародня спадабалася зялёнай мышцы і яна там шчаслівая, бо не сёння, дык заўтра зноўку стане дзяўчынкай.

## ГІТАРА, НОЖ, САЛАВЕЙ

Завёўся ў Асмалоўцы гітарыст. Таленавіты, між іншым, музыка. Ён іграў віртуозна і спяваў барытонам. Звалі гітарыста Валера Дзюбайла. На творчасць Валеры моцна ўплываў тутэйшы шафёр Зміцер Калтуновіч. Як толькі шафёр выпраўляўся ў далёкі рэйс, дык гітарыст ішоў да яго жонкі і спяваў ёй рамансы. Жонка Калтуновіча Звініслава любіла барытон маладога Дзюбайлы.

Можа, яна яшчэ нешта любіла ў гітарыста-віртуоза... Хто ж нам скажа? Ніхто! Нам у Асмалоўцы раскажуць пра іншае... Раскажуць, што неяк у шафёра адмянілі рэйс і ён раптоўна вярнуўся дамоў, дзе Валера Дзюбайла спяваў рамансы. Калтуновіч закалаціўся ад рэўнасці, схапіў нож і кінуўся на Дзюбайлу. Той спрытна выскачыў у акно, балазе першы паверх, лета, акно было адчынена. Дзюбайла паспеў дабегчы да дзіцячага садка і заскочыць на плот, калі яго дагнаў раз'ятраны Калтуновіч. Раўнівец хацеў гвазданучь Дзюбайлу нажом, але той узяў ды ператварыўся ў маленечкага салаўя. Калтуновіч здранцвеў і не стаў чапаць птушачку. Пасля таго здарэння ў Асмалоўцы гучаць самыя лепшыя салаўіныя спевы ў Мінску, а можа, і найлепшыя ў свеце.

## САЛДАТ, ШЫБЫ, СВЕЧАЧКА

Пра забітага і закапанага недзе ў Асмалоўцы салдата я чуў ад розных людзей. З пачутага і склаўся гэты аповед...

Салдата забілі ў генеральным штабе Беларускай вайсковай акругі. Той штаб яшчэ будаваўся. Вайскоўцы і будаўнікі жылі ў палатках. Працы было шмат. Праца была цяжкай. Салдатам хацелася есці і спаць. Яшчэ ім хацелася, каб усе працавалі аднолькава, на поўную сілу. Тры простыя і зразумелыя жаданні.

Знайшоўся такі салдат з мянушкай Баксёр, што не працаваў. Казаў, што баксёрам трэба трэніравацца, а не цягаць цэглу ды пясок. Калі нехта абураўся, Баксёр яго вырубаў адным ударам. Супраць прыроднага дару біць кулаком можна толькі гуртам ісці. Адной ноччу салдаты адмалацілі Баксёра. За ўсе свае накаўты адлупілі так, што хлопец да раніцы не дажыў. Каб не падымаць гвалту, афіцэры вырашылі, што зробяць заяву пра ўцёкі. Пабег салдат... Ідзі і знайдзі!

Перад тым як рабіць заяву пра ўцёкі, вырашылі ўночы закапаць труп у Асмалоўцы. Там таксама ішла будоўля, таму нікога не магла здзівіць нейкая свежазасыпаная яміна. А калі яе яшчэ прысыпаць чорнай зямлёй ды патрушчанай цэглай, пагатоў ніхто на гэта месца і не гляне. Так і зрабілі. Закапалі забітага салдата ў Асмалоўцы і напісалі, што ўцёк ды прапаў. Ніхто яго асабліва і не шукаў.

Гісторыя пра забойства ў штабе забылася на цэлы год, ажно пакуль у Асмалоўку не прыехалі навасёлы. Шмат хто з іх бачыў, як уночы пад вокнамі бадзяецца салдат. Ці мала хто дзе ходзіць? Тым больш, што побач вайсковы штаб і кварталы, спрэс заселеныя вайскоўцамі. Палова Асмалоўкі была тэатральнай, а другая палова — вайсковай. Начны салдат нікога не дзівіў, ажно пакуль не пачаў сагнутым пальцам пастукваць у шыбы. Пастукае-пастукае і далей ідзе, хаваецца ў ноч.

Так хадзіў ён па Асмалоўцы, пакуль не спыніўся пад акном балерыны Разаліі. Прывід забітага салдата пастукаў у шыбу і сказаў: «Я так многа сплю. Страшэнна многа сплю. Мяне трэба пабудзіць. Сам я прачынацца не ўмею. Сплю, ажно пакуль нехта мяне не пабудзіць. Я цябе прашу, Разалія, будзі

мяне. Прыходзь і будзі. Я сплю ў суседнім двары, у зямлі за альтанкаю...» Салдат прасіў і прасіў балерыну пабудзіць яго. Яна паабяцала, што раніцай абавязкова сходзіць за альтанку яго пабудзіць.

Салдат сышоў у цемрадзь, а Разалія пабегла да варажбіткі Фрузы за парадай. Тая супакоіла балерыну. Сказала, што трэба схадзіць у царкву, запаліць і паставіць пад абразом свечачку. Яшчэ не развіднела, а Разалія ўжо прыбегла пад царкву. Яна знайшла вартаўніка Тодара і ўгаварыла, каб той адчыніў храм. Мужчына прадаў Разаліі свечачку. Злупіў з балерыны ажно дзесяць рублёў. Гандлявацца не выпадала. Разалія запаліла дарагую свечачку і паставіла яе пад змрочным абразом Выратавальніка.

З таго часу больш ніхто ў Асмалоўцы не бачыў прывід забітага салдата, які некалі насіў мянушку Баксёр. Можна было б і забыцца на яго, але гісторыя не забываецца, бо ўвесь час нехта недзе забівае і забівае новых і новых салдат.

# ДАДАТАК 1
# МІНСКІЯ КАЗКІ

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ

*Казка, напісаная паводле твора Уладзіміра Цэслера і Сяргея Войчанкі «Яйкі»*

Напачатку была ноч. Кругом было цёмна, змрочна і чорна. У цёмнай ночы на цёмнай зямлі ў цёмным лесе жыў Чорны Певень. У яго была жонка Чорная Курачка. Яна несла Чорнаму Пеўню чорныя яечкі. З іх выводзіліся чорныя кураняткі.

Здавалася, што так будзе заўсёды. Чорны Певень і Чорная Курачка будуць дзяўбці чорныя каменьчыкі і есці чорныя зярняткі. Чорная Курачка будзе несці чорныя яечкі, а з іх будуць выводзіцца чорныя кураняткі. Усе яны будуць жыць у цёмным лесе на цёмнай зямлі, над якой стаіць цёмная ноч. Але аднойчы Чорная Курачка шукала чорнае зярнятка, а замест яго знайшла зярнятка чырвонае. Курачка спытала ў Пеўня, ці можна ёй з'есці незвычайнае зярнятка. Певень падумаў-падумаў і дазволіў сваёй Курачцы з'есці яго. Яна здзяўбла зярнятка і праз тры дні знесла не чорнае, а чырвонае яечка. З яго вылупілася Чырвонае Куранятка, з якога неўзабаве вырасла Чырвоная Курачка. Цяпер у лесе гулялі не толькі чорныя, але і чырвоныя пеўнікі і курачкі.

Праз тры месяцы Чорная Курачка знайшла белае зярнятка. Яна шукала звычайнае чорнае зярнятка, а знайшла белае. Курачка спытала ў Пеўня, ці можна ёй здзяўбці яго. Певень падумаў і дазволіў сваёй Курачцы праглынуць белае зярнятка. Праз тры дні Чорная Курачка знесла белае яечка, з яго вылупілася Белае Куранятка, з якога вырасла Белая Курачка.

Тая знесла вялікае белае яечка. А з таго белага яечка выйшла не куранятка, а Жоўтае Сонца. Яно ўзнялося на неба. Як толькі Жоўтае Сонца ўзнялося на неба, скончылася ноч. Так зніклі чарната і цемра. Так пачаўся першы на свеце сонечны, цёплы і ясны дзень. Ён пачаўся з белага яечка, якое знесла Белая Курачка.

## ЧАРОЎНЫЯ ЧАРАВІЧКІ

*Казка пра чаравічкі, якія намаляваў Руслан Вашкевіч*

Маці папрасіла дачку Зосю вынесці смецце. У свае сем дзяўчынка лічыла сябе дарослай. Яна магла схадзіць у краму «Каравай» па хлеб, збегаць у прадуктовы па малако і вынесці смецце.

Каля кантэйнера з пластыкам Зося пабачыла новенькія чорныя чаравічкі. Было падобна, што памер іх акурат для Зосі. Дзяўчынка выкінула пакеты са смеццем і ўзяла адзін чаравік, каб лепей яго разгледзець. Чаравік быў зусім новы. Нібыта яго толькі што прынеслі з крамы. На падэшве ў яго была намалявана лесвічка. На скуранай вусцілцы нехта намаляваў прыступкі.

Зося вырашыла памераць чаравік. Дзяўчына прысела на лаўку, зняла пантофлю і абула чаравік. Ён быў яе памеру, але не толькі гэта здзівіла дзяўчыну. Ёй стала лёгка дыхаць, так лёгка і прыемна ёй ніколі раней не было. Зося абула другі чаравік, і дзяўчыне зрабілася яшчэ больш лёгка. Уся яна стала бязважкай, як матылёк. Дзяўчына стала такой лёгкай у новых зножных чаравічках, што змагла пайсці не толькі па тратуары і па траве, але і па паветры. Зося ішла па паветры лёгкай хадою. Дзяўчына ўзнялася над дваром і над паркам. Па паветры яна перайшла на другі бок рэчкі.

Дзяўчынку, якая ішла па небе, заўважыла маладая маці, што гуляла ў парку з немаўляткам у калясцы: «Глядзіце, глядзіце, дзяўчынка ідзе па небе!» Людзі пачалі ўздымаць галовы і паказваць адзін аднаму на дзяўчынку ў чыстым небе.

Зосі стала няёмка. Нармальны чалавек не вельмі любіць вылучацца з натоўпу. Асабліва калі вылучыўся раптоўна і пер-

шы раз. Зося пабегла па небе ў бок зялёнага скверыка. Там яна спусцілася на зямлю і зняла чароўныя чаравічкі.

Дадому Зося ішла басанож. Яна забрала свае пакінутыя каля сметніка старыя пантофлі. Знойдзеныя чорныя чаравічкі Зося схавала ў шафу з адзежай. Да лепшых часоў.

# ДАДАТАК 2
# ВІЦЕБСКІЯ КАЗКІ

**ДРЫВАСЕК**

*Казка пра героя карціны Казіміра Малевіча «Дрывасек»*

На ўскрайку горада Віцебска жыў дрывасек. Звалі яго Казімірам. Раніцай ён ехаў у лес, дзе сек дрэвы. Дрывасек выбіраў самыя найлепшыя з вялікіх дрэў. Валіў іх. Абсякаў сукі і галіны. Чыстыя бярвёны Казімір завозіў на фабрыку. Там бярвёны распускалі на дошкі і добра высушвалі. З сухіх дошак на фабрыцы рабілі мэблю. Шафы і буфеты, сталы і крэслы, ложкі і камоды майстры выраблялі з дрэва, якое нарыхтоўваў для іх дрывасек Казімір.

Усе ў Віцебску любілі і паважалі працавітага дрывасека. Называлі яго волатам, бо сякера, якой Казімір валіў лес, была такая цяжкая, што ніхто, акрамя гаспадара, нават не мог адарваць яе ад зямлі. Шмат хто спрабаваў падняць сякеру, але ніхто так і не змог. Казімір атрымаў сякеру ад бацькі Севярына, а той ад свайго дзеда Міралюба. І бацька, і дзед, і прадзед у Казіміра, як і ён сам, былі дрывасекамі і волатамі. Калі бацька перадаваў сыну волатаўскую сякеру, ён наказаў берагчы яе, патлумачыўшы, што ў цяжкія часы яна дапаможа ў змаганні з ворагам.

Як бацька Севярын сказаў, так яно і здарылася. У адзін цёмны дзень у лес пад Віцебскам прыляцеў трохгаловы цмок з бліскучым мячом у лапе. Пачвара мела доўгі хвост, зялёныя крылы і чатыры лапы з жалезнымі кіпцямі. Языкі ў цмока былі раздвоеныя, як у змяі. Вочы лупатыя, як у жабы. Шыі доўгія, як у жырафы. Галовы цмока ўпрыгожвалі залатыя кароны.

— Гэты лес цяпер мой! Буду тут жыць і панаваць! Ніхто з майго лесу не возьме ні ягады, ні грыба, ні галінкі, ні травінкі, ні парушынкі! — сказаў цмок дрывасеку і дыхнуў на яго чырвоным полымем адразу з трох шырокіх пашчаў.

— Як скажаш, так і будзе, шаноўны цмок. Ты магутны і ваяўнічы. У цябе жалезныя кіпці, полымя ў трох пашчах і меч у кіпцястай лапе. Толькі давай мы з табою пацягаемся. Хто з нас больш дужы, той і стане раздаваць загады, а хто слабы, пачне слухацца і іх выконваць. Ты згодны, шаноўны цмок? — запытаў Казімір у зялёнакрылай пачвары.

— Ты, чалавечак, пытаешся ў мяне, магутнага цмока?! Ці згодны я з табою цягацца? Вядома, згодны! У цябе ёсць сякера, я маю меч. Бітву можна пачаць тут і цяпер, неадкладна!

Дрывасек выслухаў самаўпэўненага цмока і прапанаваў іншае:

— Я не хачу скалечыць такога цудоўнага цмока, як ты. Таму прапаную падкінуць зброю ў неба. Хто з нас вышэй яе падкіне, той і пераможа!

Цмок размахнуўся і шпурнуў у неба бліскучы меч. Той даляцеў ажно да хмары і праз тры хвіліны вярнуўся ў цмокаву лапу. Дрывасек размахнуўся і кінуў у неба сякеру. Тры гадзіны волат і цмок чакалі, пакуль яна вернецца з неба на зямлю.

— Твая сякера лягчэйшая за мой меч, таму давай памяняемся зброяй. Цяпер я кіну ў неба тваю сякеру, а ты падкінеш мой меч! — прапанаваў хітры цмок.

Казімір узяў цмокаў меч і шпурнуў у бок Месяца. Меч ударыўся аб яго і рассыпаўся на срэбны пыл.

Цмок хацеў узняць дрывасекаву сякеру і засекчы Казіміра, але гад не змог адарваць яе ад зямлі. Давялося цмоку скарыцца і пачаць слухацца дрывасека. Той загадаў яму ўладкавацца на працу ў вандроўны заацырк. Цяпер трохгаловы цмок выступае на арэне з вогненным шоу.

Дрывасек Казімір як працаваў, так і працуе з каштоўным дрэвам, з якога віцебскія майстры робяць цудоўную мэблю. Яны вырабляюць сталы і крэслы, ложкі і камоды, буфеты і шафы.

## ЧОРТ

*Казка пра героя літаграфіі Казіміра Малевіча «Чорт»*

Здараецца, што які-небудзь добры чалавек знаходзіць у парку птушанятка. Забірае яго дадому, адаграває, выгадоўвае і выпускае на волю. А бывае, сустракае ў лесе маленькае хворае ваўчаня. Вылечыўшы і падгадаваўшы яго дома, чалавек вяртае тое ваўчаня ў родны лес. Звычайная справа для разумных людзей — дапамагаць птушкам і жывёлам у бядзе.

Мастак Казімір Малевіч быў добрым і разумным чалавекам. Ніхто не сумняваўся, што ён заўсёды дапаможа жывёле ці птушцы, якая трапіць у бяду. І аднойчы з чулым і спагадлівым мастаком Малевічам здарылася надзвычайная гісторыя.

Пасля працы ў майстэрні Казімір вырашыў прагуляцца ў парку. І пад высокім дубам сярод лістоты і жалудоў ён пабачыў зусім не птушаня ці ваўчаня, якому трэба неадкладная дапамога... Малевіч пабачыў маленечкага чорнага чорціка. Калі мастак схіліўся над ім, той цяжка ўздыхнуў і папрасіў: «Дапамажы мне, добры чалавек!» Чорцік сказаў гэта такім сумным голасам і ўздыхнуў з такой скрухай, што Малевіч пашкадаваў яго, падняў з зямлі і аднёс у майстэрню.

Там чорцік папіў цёплага малака з мёдам і ачуняў. Казімір прапанаваў знайдышу выбар: вярнуцца ў парк да вольнага жыцця ці застацца ў майстэрні і пачаць вучыцца. Мастак быў абсалютна ўпэўнены, што чорцік будзе рвацца на свабоду. Але чорт выбраў майстэрню замест парку і вучобу замест гультаяватага жыцця.

Вучыўся чорцік так старанна, што Казміру Малевічу давялося купляць яму школьную форму, каб весці ў гімназію. Пэўныя складанасці ў чорціка ў ёй былі, бо яму даводзілася хаваць рогі ў густых валасах і насіць спецыяльны абутак, каб аднакласнікі, крый бог, не пабачылі яго чорныя капыты. У гімназіі чорцік вучыўся пад псеўданімам Міралюб Чорны. Вучыўся так добра, што скончыў не толькі гімназію, але і ўніверсітэт.

Міралюб Чорны стаў выдатным чарцёжнікам. Разам з Казімірам Малевічам ён прыехаў у Віцебск. Там выкладаў

чарчэнне ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. Лепшага за яго чарцёжніка беларускі горад не бачыў за ўсю сваю доўгую гісторыю. А калі з часам Казімір Малевіч пераехаў жыць і працаваць у іншы горад, дык чорцік застаўся ў Віцебску. Тут ён пражыў доўгае і шчаслівае жыццё сапраўднага чалавека і выхаваў шмат выдатных чарцёжнікаў.

**МЕХ**

*Казка пра героя карціны Казіміра Малевіча «Мужчына з мехам»*

Мастак Казімір Малевіч прагульваўся па Віцебску, калі пабачыў чалавека з шэрым мехам за плячамі. Той няспешна ішоў па асветленай залатым вечаровым сонцам вуліцы. Было відаць, што ён моцна стаміўся за дзень і яму цяжка даецца кожны крок.

У мастака ўзнікла жаданне спыніць чалавека з мяшком і запрасіць яго ў майстэрню, каб там неадкладна намаляваць. Малевіч дагнаў прахожага і павітаўся:

— Добры вечар! Я мастак Казімір Малевіч. Бачу, што вы стаміліся. Таму хацеў бы запрасіць вас у майстэрню і пачаставаць салодкім чаем з абаранкамі. Пачастунак прапаноўваю не дармовы. За чай з абаранкамі вы мне гадзіну папазіруеце. Я вельмі хачу намаляваць з вас карціну «Мужчына з мехам», бо вы мяне моцна ўразілі.

Чалавек паставіў шэры мех на зялёную траву, дастаў з кішэні белую хустачку і выцер ёю свой потны чырвоны лоб:

— Добра. Я пайду з вамі ў майстэрню, там вып’ю шклянку чаю і з’ем пару абаранкаў. Я папазірую вам для карціны «Мужчына з мехам». А пакуль буду пазіраваць, раскажу, чаму так моцна стамляюся кожны божы дзень... Выбачайце, што не адразу назваў сябе. Я ветэрынар Уладзімір Хвастовіч.

Мастак і ветэрынар пацiснулі адзін аднаму рукі. У Малевіча былі вялікія белыя рукі, а ў Хвастовіча — вялікія чырвоныя.

У майстэрні Казіміра Малевіча панаваў ідэальны парадак. Мастак наліў госцю поўную шклянку духмянага чаю. Той пачаставаўся абаранкамі, выпіў чаю і стаў пасярод майстэрні ў

позу, патрэбную мастаку. Пакуль Казімір Малевіч пісаў карціну, ветэрынар расказаў дзівосную гісторыю пра свой шэры мех.

Тры гады назад Уладзімір Хвастовіч ішоў неяк раніцай у свой ветэрынарны пункт. Кіраваўся да рагатых і хвастатых пацыентаў. Па дарозе ён сустрэў старую жанчыну, якая марудна ішла па сцежцы. За плячыма яна несла шэры мех, мяркуючы па ўсім, цяжкі. Ветэрынар вырашыў дапамагчы жанчыне. Як высветлілася, яна таксама кіравалася ў ветпункт. У яе мяху сядзеў хворы сабачка.

Хвастовіч занёс мех да сябе ў кабінет і дастаў з яго жывёлу. Агледзеў яе, але ніякіх прыкмет хваробы не знайшоў. Тут старая і прызналася: яна знарок трапілася на вочы ветэрынару, бо стамілася штодня цягаць за плячыма цяжкі мех. А цягаць яго ёй даводзілася таму, што мех быў чароўным і мог вылечыць любую хваробу. Для гэтага трэба было пасадзіць у яго хворую жывёліну, закінуць мех за плечы і абысці з ім квартал. Пасля гэтага жывёла ў мяху станавілася абсалютна здаровай!

Ветэрынар не паверыў старой. Ён узяў шэры мех і пасадзіў у яго хворае кацяня, якое прынесла бялявая дзяўчынка. З мехам за плячыма Хвастовіч абабег квартал, у якім стаяў ветэрынарны пункт. Калі пасля гэтага ён дастаў з меха кацяня, яно было зноў здаровым. Нават следу хвароба на ім не пакінула. Хвастовіч хацеў вярнуць шэры мех старой жанчыне, але яе нідзе не было. Колькі ён ні шукаў, так і не знайшоў гаспадыню чарадзейнага меха...

Тры гады Хвастовіч цягаў у мяху хворых жывёл, ажно пакуль яго не спыніў мастак. Зразумела, што Казімір Малевіч таксама не паверыў Хвастовічу. Ён нават пасмяяўся з ветурача. Тады той зняў са сцяны майстэрні чучала савы, паклаў яго ў мех і прапанаваў Малевічу абысці з ім квартал. Казімір абабег квартал з чучалам у мяху. Калі ж ён развязаў мех, дык адтуль вылецела жывая і здаровая птушка. Яна праляцела над мальбертам і накіравалася да акна. Добра, што вечар быў цёплы і акно ў майстэрні было расчынена. Сава вылецела ў пацямнелае зорнае неба і там знікла. Мастак падняў з падлогі пусты мех і хацеў вярнуць яго Уладзіміру Хвастовічу. Толькі ветэрынара ў майстэрні ўжо не было.

Тры месяцы і тры тыдні мастак Малевіч насіў вакол свайго квартала пташак, катоў і сабак. Падбіраў хворых, а выпускаў здаровых. Ён насіў за плячыма шэры мяшок, ажно пакуль яго не спыніў малады чалавек і не прапанаваў дапамогу. Шэры мех перайшоў да гэтага добрага чалавека. Цяпер той займаецца лячэннем хворых жывёл.

На добры ўспамін пра чарадзейны шэры мяшок нам засталася карціна Казіміра Малевіча, якая зараз вісіць у гарадскім музеі ў слаўным горадзе Амстэрдаме.

**КАШУЛЯ**

*Казка пра героя карціны Казіміра Малевіча «Складанае прадчуванне (Торс у жоўтай кашулі)»*

Мастак Казімір Малевіч адкрыў дзве школы для маладых мастакоў. Адну ў горадзе Віцебску, а другую — у Смаленску. Малевіч мусіў шмат ездзіць з Віцебска ў Смаленск і назад. Ездзіў ён праз горад Оршу. Там мастаку даводзілася спыняцца, а часам і начаваць, бо цягнікі ў суровы пасляваенны час хадзілі кепска, часта спазняліся і затрымліваліся.

У Оршы ў Малевіча быў знаёмы доктар, які заўсёды насіў жоўтую кашулю. Звычайна дактары носяць белую ці зялёную вопратку, а гэты выбраў сабе жоўты колер. Уся Орша называла яго не інакш як Жоўтая Кашуля. Усе помнілі яркі жоўты колер адзення, але мала хто мог нешта сказаць пра твар знакамітага доктара, бо ўласна твару ў яго і не было.

Адсутнасць твару і зацікавіла Казіміра Малевіча. Ён пазнаёміўся з доктарам, каб напісаць яго партрэт. Мастака так усхвалявала бястварае аблічча чалавека, што ён намаляваў не адзін, а два партрэты Жоўтай Кашулі. Першы партрэт Казімір падарыў незвычайнаму натуршчыку, а другі пакінуў сабе. У знак падзякі за падораны партрэт доктар дазваляў Малевічу спыняцца і начаваць у сваім доме.

Дом быў знакамітым, бо туды прыходзілі па дапамогу для сваіх дзетак жанчыны не толькі з усёй Оршы, але і з яе ваколіц. Доктар папраўляў здароўе дзяцей крынічнай вадой. У садзе за домам з-пад зямлі ішла чысцюткая халодная вада. Доктар

абклаў крынічку сабранымі ў полі камянямі. У каменнае кола замацаваў металічную трубу, з яе і пачынаўся Светлы ручай. Лекар называў сваю крыніцу Светлай, адпаведная назва перайшла і на ручай.

Вада са Светлай крыніцы была смачная, а калі ў яе дадаваліся травы, сабраныя Жоўтай Кашуляй, тады вадой можна было паправіць здароўе любому дзіцяці. Праўда, было некалькі ўмоў.

Каб вада са Светлай крыніцы падзейнічала, яе павінна была прасіць маці хворага дзіцяці. Калі ж па ваду прыходзіў бацька, дзед ці баба, вада не дзейнічала. Акрамя першай умовы была і другая, больш цяжкая для выканання. Дзіця павінна было не проста выпіць глыток цудадзейнай вады, але і пасля гэтага цэлую гадзіну нерухома праляжаць у ложку. Лекар настойліва раіў даваць ваду дзіцяці перад сном. Толькі ж не ўсе слухаліся Жоўтую Кашулю. Некаторыя спяшаліся як мага хутчэй дапамагчы хвораму, а праз гэта больш шкодзілі, чым дапамагалі.

Трэцяя ж умова была самай простай: пра Жоўтую Кашулю і Светлую крыніцу можна было расказваць толькі тым, хто трапіў у бяду, і тым, каму патрэбна неадкладная дапамога. Але нават такую простую ўмову няўдзячныя людзі часта не выконвалі.

Знайшліся такія, хто абвінаваціў доктара ў сяброўстве з нячыстымі сіламі — чарцямі — і ворагамі народу — шпіёнамі. Міліцыянеры зрабілі спробу арыштаваць Жоўтую Кашулю. Уласна кажучы, кашулю яны арыштавалі, але самога доктара не знайшлі. Міліцыя нават прымусіла мастака Казіміра Малевіча намаляваць яшчэ некалькі партрэтаў знакамітага доктара. Малевіч выканаў патрабаванне, але па тых малюнках нельга было пазнаць лекара, таму доктар і застаўся на волі.

Добрыя людзі казалі, што Жоўтая Кашуля яшчэ доўга жыў каля розных чыстых крыніц і паспеў паправіць здароўе многім хворым дзецям.

## ГУЗІКІ

*Легенда пра віцебскія гузікі*

Мастак-супрэматыст Казімір Малевіч прыехаў у Віцебск і зрабіў там вялікую выставу сваіх геаметрычных карцін. На ёй Казімір патлумачыў прысутным значнасць, каштоўнасць і эталоннасць формы такой фігуры, як квадрат. Мастак так пераканаўча расказваў пра ідэальнасць чорнага, чырвонага і белага квадратаў, што нават майстры, якія рабілі ў Віцебску гузікі, пасля сустрэчы з Казімірам Малевічам пачалі замест круглых гузікаў выпускаць квадратныя. Мода на квадратныя гузікі пратрымалася ў Віцебску досыць доўга. Гадоў дваццаць, лічы, ад заканчэння Першай сусветнай вайны ажно да пачатку Другой сусветнай.

## БЕССМЯРОТНАСЦЬ

*Легенда пра карціну Казіміра Малевіча «Чорны квадрат»*

Мастак Казімір працаваў у тэатры. Ён рабіў дэкарацыі і касцюмы да спектакля «Перамога над Сонцам». Калі праца над аздабленнем сцэны была скончана і артысты рыхтаваліся да прэм’ернага паказу, Казімір вырашыў накрыць у майстэрні святочны стол, каб стваральнікі «Перамогі над Сонцам» змаглі ўрачыста адзначыць падзею.

Мастак купіў у краме шмат садавіны і гародніны. Ён набраў салодкіх чырвоных і залатых яблыкаў. Выбраў самы вялікі з ананасаў. Узважыў мядовых груш. Наклаў кош вінаграду. Для жанчын выбраў шампанскае, а для мужчын — хлебнае віно. Побач з віном на палічцы ў краме стаяў шкляны кубік з цыліндрычным рыльцам. На ім была акуратная этыкетка з надпісам «Бессмяротнасць». Казімір быў упэўнены, што ў шкляным кубіку таксама хлебнае віно — любімы напітак сур’ёзных мужчын. Таму мастак і набыў яго ды прынёс у майстэрню.

Калі ўсё было расстаўлена на стале, Казімір заўважыў што кубік знік. Першая думка — пакінуў у краме. Мастак вярнуўся туды і папытаў у прадаўшчыцы пра шкляны кубік з «Бессмяротнасцю». Прадаўшчыца зрабіла круглыя вочы і

запэўніла Казіміра, што ў яе краме ніколі не было хлебнага віна з назвай «Бессмяротнасць».

Збянтэжаны мастак вярнуўся ў майстэрню і ўважліва агледзеў тое месца, куды ён паставіў кубічную бутэлечку. На белым абрусе Казімір убачыў акуратны след ад квадратнага донца. Мастак узяў пэндзаль і зрабіў чорнай рыскай абрыс вакол следу. Атрымаўся даволі роўны рукатворны квадрат. Гэты абрыс мастак паклаў у аснову сваёй карціны «Чорны квадрат».

Пакуль госці балявалі ў майстэрні, Казімір пісаў сваю знакамітую карціну. Артысты прапаноўвалі яму салодкія грушы і яблыкі, падносілі хлебнае віно і шампанскае, спакушалі вінаградам, але Казімір адмаўляўся ад пачастункаў, бо ў яго было толькі адно жаданне і адна прага — напісаць карціну «Чорны квадрат». І ён яе напісаў.

## САЛОДКІ СОН

*Паданне пра мастака Казіміра Малевіча і твары без вачэй*

Пасля грамадзянскай вайны ў горадзе Віцебску былі галодныя часы. Не хапала нават самых простых прадуктаў — хлеба і малака. Пра нейкія ласункі ды прысмакі нават гаворкі не ішло. Людзі задавальняліся самым малым у ежы. Селядзец з бульбінаю быў за раскошу. У тыя галодныя дні мастак Казімір Малевіч і пачуў ад сваёй вучаніцы Надзі гісторыю пра салодкі сон...

У мястэчку Глыбокае старая баба Маня расстаралася і прынесла дадому мяшочак з колатым цукрам. Кавалкі белага і бліскучага, як крышталь, цукру баба Маня пераклала ў слоік, які заткнула шырокім коркам. Слоік з цукрам яна паставіла ў буфет. Унукам — Вальцы ды Толіку — баба Маня сказала, што Хрыстос, намаляваны на іконе, будзе сачыць за цукрам. Калі нехта возьме ды скрадзе нават маленечкі кавалак салодкага крышталіка, Ісус Хрыстос убачыць і раскажа бабе Мані.

Валька і Толік дачакаліся, калі старая сышла з дому, і падкраліся да буфета. Хрыстос уважліва глядзеў на малых зладзеяў. Тады дзеці вырашылі Ісуса падмануць. Яны выбеглі з кухні і пачалі асцярожна зазіраць у яе праз вузкую шчыліну

дзвярэй. Спадзяваліся, што Хрыстос хутка засне, заплюшчыць вочы, а тады можна будзе наесціся цукру. Але Той глядзеў на іх не міргаючы. Тады Валька ўзяла шыльца, стала на крэсла і папрабівала Хрысту вочы, каб Ён не пабачыў крадзяжу. Разам з Толікам Валька наелася салодкага ад пуза.

Калі баба Маня вярнулася і пабачыла напаўпусты слоік, дык адлупцавала пасам унукаў. Яна нават не стала пытацца ў Хрыста, бачыў ён крадзеж ці не.

Валька расказвала потым сваёй сяброўцы Надзі, што ёй час ад часу сніцца салодкі сон, у якім яна шыльцам прабівае намаляваныя вочы Хрыста, а потым есць кавалкі цукру.

Гэтая дзіўная гісторыя, расказаная вучаніцай, так моцна ўразіла і здзівіла Казіміра Малевіча, што мастак пачаў маляваць карціны з тварамі без вачэй, карціны, героям якіх нельга шыльцам выкалаць вочы, але можна ўявіць і дамаляваць.

# ЗМЕСТ

## Парыжскія казкі

**Асмалоўскія казкі**

**Глобус, А.**

Г52 Казкі сталічныя : Парыж–Вільня–Мінск–Віцебск / Адам Глобус. — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 160 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 104).

ISBN 978-985-7180-82-0.

Новая кніга Адама Глобуса складзена з казак, напісаных у розных сталічных гарадах. Дзіўныя падзеі адбываюцца ў Парыжы, Вільні і Мінску. Пісьменніку пашанцавала, і ён змог пажыць і папрацаваць у гэтых цудоўных сталіцах. У дадатку Глобус змясціў казкі пра мастакоў віцебскай школы і неверагодныя гісторыі пра іх таленавітыя творы.

**УДК 821.161.1-3**
**ББК 84(4Беи)**

На вокладцы змешаны малюнкі Адама Глобуса,
зробленыя ў нашай прывакзальнай і казачнай Вільні.

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»
Выпуск 104

**Глобус** Адам

**Казкі сталічныя**
*Парыж–Вільня–Мінск–Віцебск*

Адказны за выпуск Г. Вінярскі
Рэдактар А. Нанас
Вёрстка Л. Гарадзецкай
Карэктар А. Спрытніч

Падпісана да друку 06.03.2018. Фармат 84×108 1/32.
Рызаграфія. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 8,4.
Ул.-выд. арк. 6,56. Наклад 300 ас. Зак. 121.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.